



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

26 кастрычніка 2018 года №43 (1226)


# Што рабіць на «Спадарожніку» прадаўцам без пакупнікоў?

Што кажуць пра пераезд рынку прадаўцы, пакупнікі і мясцовыя ўлады

старонка 2

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

## Аўтапарк увёў Яндэкс.Транспарт, ДБУ-49 будуе дарогі за мяжой: аўтамабілісты і дарожнікі адзначаюць прафесійнае свята.

старонка 5



ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У Вілейцы распрацавалі больш за дзесяць турыстычных маршрутаў па горадзе

ВІЛЕЙКА

Супрацоўнікі музея распрацавалі турмаршруты ў рамках праекта «Праменад па вуліцах горада».

– Маршруты не зусім новыя, проста крыху змененыя і дапрацаваныя, – кажа дырэктар музея **Надзея Аўдзей**. – Спярша была адна вялікая экскурсія «Па старадаўніх вуліцах Вілейкі». Але абысці ўвесь горад нялёгка, тым больш, з групай дзяцей. Таму экскурсіі «разбілі» па раёнах. Аднак кожны маршрут, дзе б ён ні пачынаўся, выводзіць на цэнтральную плошчу.

Калі на вуліцы холадна, то ў музеі па вызначаных маршрутах ладзяць віртуальныя экскурсіі. А летам або такой, як сёлета, цёплай восенню выходзяць на вуліцы горада.

– Абавязкова ідзём па вуліцы, якая цяпер называецца Савецкай, – кажа дырэктар музея. – Гэта першая вуліца горада. Тут гісторыя – у кожным будынку і помніку.

Экскурсіі праводзяць Надзея Аўдзей і старшы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Коласава**.

Асабліва папулярныя маршруты «Вілейка ад мястэчка да двара», «Пра што шуміць старадаўні парк», «Архітэктура скрозь стагоддзі», «Хрысціянскія святыні Вілейкі», «У госці да Вілляны».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## «Чысты лес» – прафкам падатковай інспекцыі і маладзечанскі лясгас наведалі Сакаўшчыну

МАЛАДЗЕЧНА

Падчас акцыі «Чысты лес» прафкам падатковай інспекцыі разам з маладзечанскім лясгасам наведалі вёску Сакаўшчына.

Акцыю правялі 20 кастрычніка.

11 лістапада спаўняецца 75 гадоў з тых часоў, як фашысты спалілі вёску.

Наведваюць помнік не першы раз за год. Да гэтага падатковая інспекцыя наводзіла тут парадак у красавіку, ліпені і кастрычніку.

У гэты раз пасадзілі сем клёнаў, прыбралі тэрыторыю, зрабілі і пафарбавалі чатыры лавачкі, абрэзалі дрэвы. Лясгас даў дрэвы, дошкі, фарбу.

– Ад красавіка прафкам далучыўся да акцыі «Захаваем памяць на стагоддзі», яна яшчэ доўжыцца. Трэба памятаць пра вайну, берагчы памяць аб продках. Любы ахвотны можа звярнуцца да нас з пытаннем аднаўлення помнікаў. Калі яны занядбаныя, можам прыехаць і навесці там парадак, – расказала старшыня пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі **Аксана Вараб'ёва**.

Наступную акцыю плануюць зладзіць вясной.

– Спадзяюся, лясгас дапаможа. Разам зможам ачысціць вялікую тэрыторыю, ёсць над чым працаваць.

**Таццяна КАСЬЯН.**

ТЭМА НУМАРА

# Што рабіць на «Спадарожніку» прадаўцам без пакупнікоў?

## Што кажуць пра пераезд рынку прадаўцы, пакупнікі і мясцовыя ўлады

МАЛАДЗЕЧНА

**– А што гэта вы напісалі, што базар пераязджае? Мы палову сваіх пакупнікоў страцілі. Мы ведаем: вам за такую інфармацыю «Спадарожнік» грошы даў, хабар! – так няветліва сустрэлі карэспандэнта «Рэгіянальнай газеты» прадаўцы на рынку.**



Калгасны рынак па-ранейшаму працуе.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК

Між тым, 17 кастрычніка на нашым сайце мы паведамілі сваім чытачам толькі пра тое, што «Спадарожнік» гатовы прымаць арандатараў.

У гандлёвым цэнтры працуюць пакуль два арандатары.

Аб тым, што рынак райспажыўтаварыства збіраліся пераносіць, у горадзе, гаварылі не адзін год. Нарэшце гандлёвы цэнтр закончыў рэканструкцыю будынка, на якім мяркуюць размясціць гандлёвыя аб'екты. Плошча гатовая для работы. Ужо працуюць два арандатары, распавялі «Рэгіянальнай газеце» ў адміністрацыі цэнтра. Урачыстае адкрыццё другога магазіна зладзілі ў суботу, 20 кастрычніка.

Пра неабходнасць пераносіць рынак райспажыўтаварыства кажуць і мясцовыя ўлады. Адна з праблем была ў тым, што ў базарныя дні тэрыторыя вакол рынку запоўненая аўтамабілямі. Гэта вельмі нязручна і для наведнікаў, і для жыхароў дамоў каля яго.

Меркавалася, што на месцы рынку паўстане жылы дом з гандлёвымі аб'ектамі на першым паверсе. Аднак пакуль рынак райспажыўтаварыства ў цэнтры горада працягвае працаваць на сваім месцы.

### Маладзечанскі райвыканкам: рынак працуе, «Спадарожнік» прымае арандатараў

– Пакуль сітуацыя такая, – расказаў намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Генадзь Актанаровіч**. – «Спадарожнік» гатовы здаваць плошчу ўсім ахвотным, а рынак працуе.

### Прадаўцы – супраць

У пакупнікоў і прадаўцоў пра магчымы перанос рынку свае меркаванні.

– Я адназначна адмоўна стаўлюся да таго, што рынак можа пераехаць на «Спадарожнік», – кажа **Наталля**, што прадае тут фрукты. – Так, там цёпла, светла і дах над галавой, але будынак знаходзіцца ў канцы горада. Хто туды паедзе? Вялікая частка нашых пакупнікоў – пенсіянеры. Дабрацца да «Спадарожніка» для іх нялёгка. Калі рынак пераедзе, я дакладна працаваць не буду. Што там рабіць прадаўцам без пакупнікоў?

– Афіцыйна пра перанос рынку нам ніхто не паведамляў, – далучаецца да размовы **Ірына**, якая гандлюе адзеннем. Кожны год мы дагаворы заключаем з адміністрацыяй рынку. Заключылі і на гэты год. Будзем працаваць, як працавалі. А пра перанос ужо гадоў пятнаццаць кажуць.

### Жыхарка бліжэйшага дома – за

Пакупніца **Святлана**, якая жыве на вуліцы Касманаўтаў, недалёка да рынку, наадварот за тое, каб ён пераехаў. Кажа, вельмі напружваюць шэрагі машын з самай раніцы, смецце. А яшчэ тое, што некаторыя прадаўцы, у якіх не купілі кацяня, адразу выкідаюць жывёлак у суседнія двары.

Распытаць больш не атрымалася. Людзі насцярожана глядзелі на чалавека з фотаапаратам. А гандляры каля рынку ўвогуле ўспрынялі журналіста за прадстаўніка нейкіх іншых структур. «Ну што вы ўсё здымаеце? Складайце ўжо адразу пратаколы!» – параіў адзін з прадаўцоў.

**Аксана ЯРАШОНАК, Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Камент-эксперт**

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

Пакідайце каментары пад артыкуламі на сайце Rh.by ці ў суполках газеты у сацсетках

«Рэчавы рынак амаль знішчылі. А цяпер яшчэ і калгасны, папулярны ва ўсім раёне. Да «Спадарожніка» не дойдзе і не даедзе палова тых, хто сёння купляе прадукты на калгасным рынку». **Ігар.**

«Можа, тады аўтобус пусцяць, як раней, і вуліца стане двухбаковай. А наконт жылога дома на тэрыторыі рынку, там не адзін змесціцца. Толькі будуць гэта дамы для эліты». **Аляксандр.**

«Быў усім зручны, блізкі, месца хапала. Дык не, трэба нешта яшчэ прыдумляць». **Яўген.**

«А ўсім зручна купляць прадукты на асфальце, купляць свежае мяса ў павільёне з кучай мух? Паркаваць машыны ў тры рады ў дварах бліжэйшых дамоў? Ці лепш паехаць на прасторную паркоўку і набываць прадукты ў цёплым, крытым, добраўпарадкаваным павільёне?». **Святлана.**

«Хай пераязджае. Няўжо лепш антысанітарыя і куча пацукоў у цэнтры горада?» **Усевалад.**


Фота gastronom.ru

Калі бацькі куплялі дзецям сокаўтрымальны напой, то і не падазравалі, што той можа адмоўна ўплываць на актыўнасць і ўвагу дзяцей.

# Забаранілі масла і гранатавы напой

**Забарона дзейнічае ад 17 кастрычніка.**

Галоўны дзяржаўны інспектар Беларусі па наглядзе за адпаведнасцю тэхрэгламенту забараніў увозіць і прадаваць небяспечную прадукцыю.

За неадпаведнасць тэхрэгламенту забаронена ўвозіць і прадаваць гранатавы сокаўтрымальны напой (Pomegranate drink). Бутэлька са шкла на адзін літр, вытворца «БЭСТ» Расійскай Федэрацыі, горад Жалезнадарожны.

Напой не адпавядае патрабаванням тэхрэгламенту «Аб бяспецы харчовай прадукцыі», «Харчовая прадукцыя ў частцы яе маркіроўкі», «Тэхнічны рэгламент на сокавую прадукцыю з фруктаў і гароднiны».

**Неадпаведнасці ёсць у маркіроўцы, у падачы дакладнай інфармацыі аб складзе прадукту, не было папераджальнага надпісу аб штучным фарбавальніку.**

Фактычна ў склад прадукту ўваходзіць сінтэтычны фарбавальнік азарубін (Е 122). Хаця гэты фарбавальнік не заяўлены вытворцам у складзе прадукту.

У маркіроўцы няма папераджальнага надпісу «Утрымлівае фарбавальнік, які можа адмоўна ўплываць на актыўнасць і ўвагу дзяцей».

Забаранілі наступныя віды масла: «Традыцыйнае» з масавай доляй тлушчу 82,5%, несалёнае «Сялянскае» з масавай доляй тлушчу 72,5%. Яно не адпавядае патрабаванням тэхрэгламенту Мытнага саюза «Аб бяспецы малака і малочнай прадукцыі» па вызначэнні паняцця «Масла з каровiнага малака».

Не адпавядае дзяржаўнаму стандарту «Масла. Тэхнічныя ўмовы» па наяўнасці тлушчаў і алеяў расліннага паходжання ў тлушчавай фазе. І суадносінам масавых доляў метылавых эфіраў тлустых кіслот тлушчавай фазы. Тлушчавая фаза масла не адпавядае малочнаму тлушчу каровiнага малака. Прадукцыя не супадае з той, за якую выдаюць. Вытворцы «Гандлёвы дом «Правіянт» горада Віднае Расійскай Федэрацыі.

**Таццяна КУГАРА, загадчык аддзялення гігіены харчавання Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## На Вілейшчыне прыпісваюць сяўбу азімых

ВІЛЕЙКА

**Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці кантралюе, як ідзе сяўба азімых культур.**

Некаторыя кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў Вілейскага раёна толькі ствараюць бачнасць «ударнай пасяўной кампаніі» і скажаюць дзяржаўную статыстычную справаздачнасць.

На 1 кастрычніка службовыя асобы чатырох прадпрыемстваў раёна прыпісалі 2400 гектараў сяўбы азімых збожжавых. «Арыфметычная памылка» ў гаспадарках была паміж 400 і 700 гектарамі.

Знайшлі парушэнні ў корманарыхтоўцы. З-за недахопу спраўнай тэхнікі ў таварыстве «Новая Любанія» ў першай палове дня 10 кастрычніка не праводзілі трамбоўку сіласу. Траншэі закладвалі 11 дзён замест трох.

Калі зацягваць тэрміны закладкі траншэй, гэта негатыўна адбіваецца на якасці кармоў, што пацверджана вынікамі лабараторных даследаванняў проб кармоў практычна ў кожным прадпрыемстве раёна.

У таварыстве «Алая зара» 600 тон сенажу закладвалі сем дзён. Гэта адна з прычын яго неадпаведнасці дзяржаўным патрабаванням.

Вілейскаму райвыканкаму накіравалі прапановы, як выправіць парушэнні і недахопы. Матэрыялы перадалі ў праваахоўныя органы, каб атрымаць прававую ацэнку.

Кантроль за восеньскімі палявымі работамі працягваецца.

**Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці.**

## Незаконна набывалі абсталяванне і трымалі лішніх работнікаў

ВАЛОЖЫН

**Валожынскую ЦРБ праверылі на эфектыўнасць выкарыстання бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў.**

Знайшлі выпадкі нямэтавага і незаконнага выкарыстання грошай. Напрыклад, набывалі абсталяванне, утрымлівалі штатныя адзінкі, якія непрадугледжаныя заканадаўствам. Выкарыстоўвалі бюджэтныя сродкі з парушэннем заканадаўства, завышалі цану будаўніча-мантажных работ падчас капітальнага рамонту будынкаў.

Больш за тры гады не запатрабаваныя праекты па капітальным рамонце аб'ектаў ахоўвы здароўя. На іх распрацоўку выдаткавалі 47 тысяч рублёў з мясцовага бюджэту.

Знайшлі парушэнні заканадаўства падчас здачы дзяржаўнай маёмасці ў арэнду, па працэдурах закупак за кошт бюджэту, вядзенні бухуліку.

Па матэрыялах праверкі да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі адну юрыдычную асобу і пяць службовых, да дысцыплінарнай – дзевяць. Для прававой ацэнкі матэрыялы накіравалі ў праваахоўныя органы.

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 18.10 | 25.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1066 | 2.1056 |
| Еўра | 2.4365 | 2.4067 |
| Злоты, 10 | 5.6768 | 5.5884 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2210 | 3.2073 |
| Грыўня, 100 | 7.5451 | 7.4568 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 17.10 | 24.10 |
| Еўра | 2.4250/2.4500 | 2.3900/2.4120 |
| Долар ЗША | 2.0950/2.1150 | 2.0980/2.1150 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 17.10 | 24.10 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,87 | 18,45 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | 3,69 |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | 6,59 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | 8,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,60 | 4,60 |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | 13,80 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | 1,10 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | 1,70 |
| Алей, 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | 1,70 |
| Агуркі, 1 кг | 1,95 | 2,20 |
| Баклажаны, 1 кг | 1,70 | 2,30 |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | 0,40 |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | 0,80 |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | – |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | 0,50 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,75 | 1,75 |
| Морква, 1 кг | 0,80 | 0,75 |
| Памідоры, 1 кг | 1,70 | 2,00 |
| Перац, 1 кг | 1,20 | 1,00 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | 0,85 |
| Часнок, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | 4,90 |
| Бананы, 1 кг | 1,95 | 1,90 |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | 3,20 |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Грушы, 1 кг | 2,00 | 2,00 |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | 1,80 |
| Кавун, 1 кг | 0,80 | 0,60 |
| Ківі, 1 кг | 3,50 | 3,90 |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | 9,50 |
| Мандарыны, 1 кг | – | 3,95 |
| Хурма, 1 кг | 5,50 | 6,50 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Сала, 1 кг | 12,00 | 12,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |


Фота забяспечана Маладзечанскім РАУС.

Валянцін Асіповіч.

## Начальнік Маладзечанскага РАУС пайшоў на павышэнне

**МАЛАДЗЕЧНА**

Начальніка Маладзечанскага РАУС **Валянціна Асіповіча** павысілі, цяпер ён намеснік начальніка УУС Гродзенскай вобласці.

Абавязкі начальніка Маладзечанскага РАУС выконвае начальнік крымінальнай міліцыі, першы намеснік начальніка **Юры Кабакоў**.

**Таццяна КАСЬЯН.**

## Затрымалі мужчыну, які спрабаваў згвалтаваць 9-гадовую дзяўчынку

**МАЛАДЗЕЧНА**

Злачынства супраць дзяўчынкі адбылося днём 19 кастрычніка.

Мужчына напаў на 9-гадовую дзяўчынку ў яе пад'ездзе. Аднак яго своечасова спужалі суседзі.

Па словах знаёмай сям'і дзяўчынкі, падазраванага затрымалі ў той жа дзень.

Міліцыя шукае сведкаў злачынства. Магчыма, хтосьці бачыў, як падазраваны заходзіў у дом ці выходзіў.

За інфармацыю міліцыя абяцае ўзнагароджванне і гарантуе канфідэнцыйнасць.

Калі вы штосьці ведаеце пра злачынства, калі ласка, пазваніце на любы з гэтых нумароў: **8 (033) 320-60-70, 8 (033) 660-00-90, 8 (029) 761-75-25** ці **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## За адну стронгу рыбака чакае крымінальная адказнасць і штраф

**ВІЛЕЙКА**
**МЯДЗЕЛ**

22 кастрычніка на Вілейшчыне ля Куранца ў рацэ Пела рыбак сеткай злавіў адну стронгу. Цяпер яго чакае штраф і крымінальная адказнасць, бо гэта рыба занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі. Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» расказаў выканальнік абавязкаў начальніка Мядзельскай раённай інспекцыі жывёльнага і расліннага свету **Раман Лесін**.

Супрацоўнікі інспекцыі затрымалі рыбака каля 11 гадзін. Шкода, нанесеная навакольнаму асяроддзю, склала 441 рубель.

За незаконна злоўленую рыбу, што занесеная ў Чырвоную кнігу, прадугледжаная і крымінальная адказнасць. Прычым гэта не залежыць ад памеру шкоды, нанесенай навакольнаму асяроддзю, і кошту здабытай рыбы.

Матэрыялы передалі ў Вілейскі РАСК.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Труп зніклай пенсіянеркі знайшлі ў гразі недалёка ад дома

**ВІЛЕЙКА**

Пра тое, што ў Вілейцы знікла 79-гадовая **Марыя Маліноўская**, мы пісалі 15 кастрычніка. 17 кастрычніка сын жанчыны знайшоў яе труп недалёка ад дома, распавёў старшы оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС маёр міліцыі **Віталь Паслед**.

Па яго словах, цела ляжала ля меліярацыйнага канала ў гразі. Было бачна, што жанчына ўвязла і не магла выбрацца. Побач з ёй ляжаў галёш, увязлы ў гразі.

– Невядома, ці здароўе жанчыну падвяло, ці яна памерла ад таго, што захлынулся, бо ляжала тварам у гразі, – распавёў «Рэгіянальнай газеце» Віталь Паслед.

Канчатковую прычыну смерці ўстановяць спецыялісты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## З гаспадаркі ў Стайках скралі цяля

**ВІЛЕЙКА**

18 кастрычніка вілейскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу ў адносінах да двух жыхароў Вілейшчыны, якія скралі цяля.

Здарэнне адбылося каля гадзіны дня 13 кастрычніка. Двое мужчын, адзін – са Старынак, другі – з Мацькаўцаў, прыйшлі на тэрыторыю мацькаўскай гаспадаркі.

Там з загона яны скралі цяля. Шкода склала амаль 590 рублёў.

Падазраваных затрымалі.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

# «За бяспекай сочым, хоць не ўсім бацькам гэта падабаецца»

## Што зробяць у школах і садках рэгіёна пасля трагедыі ў Керчы

**МАЛАДЗЕЧНА**
**ВІЛЕЙКА**
**СМАРГОНЬ**
**АШМЯНЫ**

**«Рэгіянальная газета» звязалася з некаторымі ўпраўленнямі адукацыі, спорту і турызму райвыканкамаў рэгіёна, каб даведацца, ці праводзяць прафілактычныя мерапрыемствы ў школах і садках пасля трагедыі ў Керчы.**


Фота ТАСС.

На месцы надзвычайнага здарэння ў Керчы.

Нагадаем, што паводле інтэрнэт-крыніц, выбух у політэхнічным каледжы Керчы 17 кастрычніка ўчыніў 22-гадовы навучэнец гэтай навучальнай установы.

«Патэнцыйны забойца застрэліўся, пакончыў з сабой. Гэта навучэнец чацвертага курса гэтай жа навучальнай установы. Цела забойцы знойдзенае ў бібліятэцы на другім паверсе», – сказаў кіраўнік Крыма **Сяргей Аксёнаў**.

Навучэнцы распавялі, што незадоўга да выбуху адзін хлопец пакінуў у сталовай заплечнік. Таксама яны сказалі, што чулі ад гэтага маладога чалавека аб эксперыментах з выбухоўкай.

Выбух учыніў Уладзіслаў Расляхоў, які паступіў у каледж у 2015 годзе.

У выніку – некалькі дзясяткаў параненых і 20 забітых.

Як распавёў «Рэгіянальнай газеце» кіраўнік упраўлення адукацыі, спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама **Ігар Шчасны**, у школах і садках Смаргоншчыны праводзяць дадатковыя інструктажы, правераць, наколькі абмежаваны доступ у школы старонніх людзей.

– Канешне, выпадак у Керчы – гэта жахліва. Але ж здараюцца часам і іншыя надзвычайныя здарэнні. Пасля кожнага мы праводзім усе патрэбныя мерапрыемствы. У нас ужо даўно абмежаваны доступ у школу для старонніх. Хоць не ўсім бацькам падабаецца тое, што яны не могуць у любы час зайсці ў школу. Аднак, гэта бяспека нашых дзяцей. Хочаце прыйсці, папярэдзьце і вазьміце з сабой дакумент. Рэжым ва ўстанове адукацыі патрабуе парадку.

У школах і садках Вілейшчыны і Маладзечаншчыны таксама праверацъ, наколькі сумленна ва ўстановах адукацыі выконваецца прапускны рэжым.

У школах Ашмяншчыны, па словах загадчыка мясцовага ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму **Святланы Баркоўскай**, цяпер якраз праводзяць месячнік пажарнай бяспекі. Мерапрыемстваў, запланаваных у яго рамках, будзе дастаткова, каб праверыць бяспеку дзяцей у школах і садках.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ДАІ Маладзечна правядзе акцыю «Бяспечныя канікулы»

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ад пачатку года на Маладзечаншчыне адбыліся тры дарожна-транспартныя здарэнні з удзелам непаўналетніх, у якіх трое дзяцей атрымалі траўмы.

4 сакавіка каля 17:40 на дарозе Маладзечна-Самалі 38 гадовы кіроўца, рухаючыся на аўтамабілі Сітраэн у кірунку Маладзечна, наехаў на 13-гадовую жыхарку Маладзечна, якая раптам выбегла на праезную частку дарогі. Пацярпелая дзяўчынка з пераломам перадплечча была шпіталізавана.

10 верасня каля 19:00 кіроўца-маладзечанец на Фольксвагене-Вента, рухаючыся па завулку Лазневым, на скрыжаванні з вуліцай Максіма Багдановіча наехаў на непаўналетнюю равабыстку, вучаніцу пятага класа. У выніку ДТЗ дзіця атрымала траўмы. Дзяўчынку забралі ў дзіцячую бальніцу.

16 верасня каля 20:50 кіроўца на Вольве, рухаючыся на зялёны сігнал святлафора па Вялікім Гасціцы з боку Смаргоні, паблізу дома 143, наехаў на пешаходаў, якія перабягалі вуліцу на чырвонае святло. Пацярпелыя – навучэнцы сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы Маладзечна.

Памылкі пешаходаў, што сталі прычынамі ДТЗ:

- пераход праз праезную частку па-за пешаходным пераходам;
- нечаканы выхад з-за транспартавага сродку ці іншых перашкод, што абмяжоўваюць агляднасць кіроўцу;
- гульня і свавольства на дарозе;
- знаходжанне без дарослых і адсутнасць флікера.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС, капітан міліцыі.**

## Маршрутка трапіла ў аварыю пад Валожынам. Ёсць загінулыя

**ВАЛОЖЫН**

На трасе М6 Мінск-Гродна маршрутны мікраааўтобус уехаў у бетонную агароджу.

Двое пасажыраў загінулі, некаторыя ў бальніцы.

Аварыя здарылася каля васьмі вечара 18 кастрычніка. Мікраааўтобус ехаў з Мінска ў Гродна. У маршрутцы было 15 чалавек.

На трасе М6 працягваецца рэканструкцыя. Пэўныя ўчасткі дарогі, якія рамантуюць, аддзяляюць бетоннымі агароджамі. Сутыкненне адбылося на паваpоце ў тым месцы, дзе рух пераходзіць з адной паласы на другую. Кірунак руху быў абмежаваны такой агароджай.

**Паводле Радыё «Свабода».**

## Атрымаў два гады за захоўванне наркотыкаў

**ВАЛОЖЫН**

Дома ў 30-гадовага жыхара Івянца знайшлі марыхуану і фрагменты канапель.

Мужчына атрымаў два гады абмежавання волі без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу. У судзе ён прызнаў уласную віну.

Фігурант расказаў, што каноплі знайшоў у лесе, калі хадзіў збіраць грыбы. Сабраў насенне, прынёс дамоў і пасеяў у гаршку.

Калі маці зразумела, што вырошчвае сын, яна паламала расліну. А мужчына засушыў яе фрагменты.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

# Па дарогах маладзечанцаў ездзяць у Беларусі, Расіі і краінах Балтыі

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэта арганізацыя ў наступным годзе адзначыць 80-годдзе. А дарогі, пакладзеныя яе спецыялістамі, ёсць па ўсім нашым рэгіёне, у Беларусі і нават за мяжой.**

Перад прафесійным святам аўтамабілістаў і дарожнікаў наша гаворка пойдзе пра Маладзечанскае дарожна-будаўнічае ўпраўленне №49.

### ДБУ-49 – арганізацыя з гісторыяй

Гледзячы на сённяшні сучасны двухпавярховы офіс, цяжка ўявіць, што дзесяцігоддзі таму тут стаяў драўляны дом, з якога і пачыналася гісторыя прадпрыемства. На балансе ўчастка было амаль сто кіламетраў дарог. Пасля вайны, у 1946 годзе, маладзечанскія дарожнікі аднавілі працу. Пачалі будаваць жыллё для сваіх работнікаў. А кіламетраж дарог, што абслугоўвалі спецыялісты, усё павялічваўся. У 1960 – на балансе быў 191 кіламетр дарог, у 1980-я – ужо трыста.

### Ад снегу чысцілі нават Ніжні Ноўгарад

У 1999 годзе тут упершыню ў Беларусі асвоілі тэхналогію па ўстройванні ахоўных слаёў пакрыццяў аўтадарог з халодных літых асфальтабетонных сумесяў. Калі пакласці на дарогу такое пакрыццё, то яно засцеражэ дарогу ад заўчасных разбурэнняў і будзе радаваць кіроўцаў роўнасцю і надзейнасцю.

У ДБУ ёсць свая лабараторыя, дзе выпрабоўваюць дарожна-будаўнічыя матэрыялы. У 2001 годзе рэканструявалі завод па вытворчасці асфальтабетону, увялі ў эксплуатацыю ўстаноўку, на якой вырабляюць бітумныя эмульсіі.

Сёння ў спецыялістаў ДБУ-49 вялікі комплекс работ: ад земляных да добраўпарадкавання. Кладуць новыя дарогі і рамантуюць старыя. Добраўпарадкуюць іх з дапамогай сучасных метадаў вытворчасці работ. Самі вырабляюць бітумныя эмульсіі і неабходныя ў працы дарожнікаў масцікі. Даглядаюць аўтамабільныя дарогі зімой. Прычым робяць гэта не толькі ў Беларусі. Усю тую зіму спецыялісты чысцілі ад снегу і пасыпалі солева-пясчанай сумессю дарогі Ніжняга Ноўгарада. Працуюць як з дзяржаўнымі прадпрыемствамі, так і з прыватнымі прадпрымальнікамі.

### Рады моладзі, шануюць ветэранаў

Тут рады маладым спецыялістам, а яшчэ не забываюць сваіх ветэранаў. Ад 1979 года да 2015-га прарабам і майстрам участка асфальтабетоннага завода ў калектыве ДБУ адпрацаваў **Мікалай Капуцкі**, а таксама машыніст аўтагрэйдара **Міхаіл Ткачэнка**. З пачатку 1980-га і да пачатку 2000-га – **Алег Казлоў**, **Віктар Костачка**, **Ментагір Сулейманаў**, **Святлана Садоўская**. За сумленную шматгадовую працу ўсе яны ўзнагароджаны нагрудным знакам «Ганаровы дарожнік».

Не адно дзесяцігоддзе аддалі і аддаюць дарожнай справе **Ніна Драбовіч**, **Рэгіна Зяновіч**, **Рэня Бутровіч**, **Уладзімір Кісель**.

Ад 1984-га працаваў **Аляксандр-Вітольд Лось**. У 2002 годзе ён пайшоў на пенсію, але дынастыя дарожнікаў не спынілася. Сёння тут працуе кіроўцам яго сын, **Пётр Лось**.

...Па асабістых справах і па працы едуць сёння кіроўцы па дарогах Беларусі, па аўтастрадах Калінінграда, Ніжняга Ноўгарада, Саратава, Пскоўшчыны. А падзякаваць за гэту зручнасць варта спецыялістам Маладзечанскага ДБУ-49.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**
**Фота аўтара.**




**Калектыў ДБУ-49 з дырэктарам Яўгенам Партновым.**



● 28 КАСТРЫЧНІКА – ДЗЕНЬ АЎТАМАБІЛІСТА І ДАРОЖНІКА

# Аўтапарк №4 – жылы Маладзечанскага раёна

**Кожны дзень тысячы жыхароў рэгіёна своечасова трапляюць на работу, у школу, дадому дзякуючы працы гэтых людзей. Аўтапарк імкнецца зрабіць працу больш дакладнай, і шмат што ў іх атрымоўваецца проста выдатна.**

Многія не ведаюць, што аўтапарк – гэта не толькі аўтобусы. Прадпрыемства ідзе ў нагу з часам і прапануе самыя розныя маршруты. Можна не толькі заказаць аўтобус для экскурсіі класа ці на вяселле. Вы можаце звярнуцца сюды па рамонт ці стаянку, заказаць пагрузчык ці прарэкламаваць свой бізнес.

### Аўтапарк не спыняецца радаваць навінкамі

Адміністрацыя арганізацыі заўсёды трымае руку на пульсе. На важныя святы ці мерапрыемствы заўсёды даюць зручныя дадатковыя маршруты. Каб кожны спакойна мог займацца справай ці святкаваць і быць упэўненым – дадому падвязуць.

У кастрычніку парк прадэманстраваў адразу дзве навінкі. Увёў неабходны многім маладзечанцам маршрут 18а для выхадных дзён.

Яшчэ адну навінку маладзечанцы сустрэлі з захапленнем. Парк падключыў паслугу «Яндэкс. Транспарт». Цяпер кожны можа сцягнуць дадатак на свой смартфон. Вы ў рэальным часе бачыце, як перамяшчаюцца аўтобусы па Маладзечне. Многа каментарыяў з падзякамі дасылалі ў першыя дні, калі праграма толькі тэставалася.

### Чым жыве аўтапарк сёння

Пад кіраўніцтвам дырэктара **Рамана Гаварко** аўтапарк жыве напружана і адказна.

Цяпер парк абслугоўвае 25 гарадскіх, 66 прыгарадных і 17 міжгародніх маршрутаў. Займаецца перавозкамі па ўсёй краіне і за яе межамі. Грузавыя перавозкі даставяць пясок, шчэбень і іншыя важныя пастаўкі. Працуе каля 560 чалавек.

Кіраўнік службы пасажырскіх перавозак расказвае, што ў кіроўцаў існуе вадзіцельская салідарнасць – і падменяцца, калі трэба, падтрымліваюць.

Самая насычаная праца ў дыспетчараў. Часта ім даводзіцца працаваць і псіхолагам. Усё ж парк працуе з тэхнікай, якая можа паламацца ў самы нязручны момант. Аднак маршрут ёсць у раскладзе, і пасажыр на яго разлічвае. І работнікі аўтапарка робяць усё магчымае, каб не падвесці сваіх пасажыраў.

### Кіроўцы, якімі ганарыцца аўтапарк

Сярод вадзіцеляў аўтапарка ёсць тыя, хто гадамі аддана працуе. Яны разумеюць – іх чакаюць жыхары.

Шматгадовай плённай працай адзначыліся **Віктар Міхнавец**, **Юры Кірзіёнак**, **Аляксандр Бялкоў**, **Сяргей Лагуновіч**, **Віктар Мілашэвіч**, **Аляксандр Спрокван**, **Вячаслаў Дурко**, **Васіль Грыб**, **Павел Адашкевіч**, **Павел Краўчонак**, **Мікалай Адашкевіч**, **Алег Капцюг**, **Аляксандр Соніч**, **Уладзімір Курс**.

### Закажыце надзейныя паслугі ад аўтапарка

Маладзечанскі аўтапарк прапануе вельмі розныя паслугі. Скарыстацца імі не толькі зручна, але і надзейна – за якасць адказвае дзяржаўная ўстанова.

На тэрыторыі парка можна пакінуць транспарт – ад матацыкла да грузавога аўтамабіля з прычэпам. За легкавы – 2,43, за грузавы – 5,33 рубля.

Можна заказаць штодзённы агляд транспарту іншых арганізацый ці ІП – 2,74 за паслугу.

Аўтапарк прапануе тэхнічнае абслугоўванне і рамонт аўтамабіляў. Рамонт з удзелам слесара для машыны ўзростам ад пяці да васьмі год абыдзецца ў 36,52 рубля.

Шынамантажныя работы па замене аднаго кола легкавога аўто абыдуцца ў 4,99.

Заказаць рэкламу ў аўтапарку – гэта патрапіць у жылы рэгіёна. Арганізацыя прапануе розныя варыянты – выбірайце той, на якім ваш прадукт будзе мець найбольш прывабны выгляд. За адзін ліст плаката ці макета ў суткі фарматам А4 вы заплаціце ўсяго 10 капеек.

Надзвычай эфектна выглядае рэклама на знешнім баку аўтобуса. За месяц такой рэкламы вы заплаціце 59,63 рубля для звычайнага, 89,47 – за рэкламу на «гармоніку».

Калі вы хочаце, каб вашу рэкламу не чыталі, а чулі – закажыце гукавую рэкламу ў салоне. За адзін выхад роліка аплата – 3,02 рубля.

Можна скарыстацца і маніторам унутры аўтобуса. Пракруціць іміджавы відэаролік каштуе 56,22 рубля.

Для тых, каму патрэбныя паслугі пагрузчыка – аўтапарк робіць і гэта. Гадзіна працы пагрузчыка «Амкадор» абыдзецца ў 39,31 рубля, вілачны аўтапагрузчык каштуе 30 рублёў за машына/гадзіну.

Усе азначаныя цэны ўтрымліваюць НДС.




**Аўтапарк запрашае вас на экскурсіі па Беларусі, шоп-туры ў Вільню, туры выхаднога дня, адпачынак у Адэсу. Завязуць і прывязуць адразу ў Маладзечна. Падрабязней пра гэтую магчымасць чытайце на сайце http://ap4molod.by/.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Немец: Ведаю слова «сябар»

МАЛАДЗЕЧНА

**Круглы стол на нямецкай мове «Моладзь Германіі і Беларусі» правялі ў бібліятэцы сямейнага чытання «Верасок» 18 кастрычніка.**

Сустрэчу зладзілі ў рамках тыдняў Германіі ў Беларусі, што пачаліся 23 верасня. Удзельнікі папрактыкаваліся ў нямецкай падчас размовы з валанцёрам **Лінусам Шыдэрмаерам**.

Хлопец працуе ў гімназіі №10, якая ад 2014 года ўдзельнічае ў міжнародным праекце «Школы: партнёры будучыні». Для гэтага яна заключыла пагадненне з Інстытутам імя Гётэ ў Мінску.

Ініцыятыва «Школы: партнёры будучыні» (PASCH) аб'ядноўвае каля 2000 школ ва ўсім свеце, якія надаюць асаблівую ўвагу сувязям з Германіяй.

Лінус нарадзіўся ў Мюнхене, пасля пераехаў на поўнач краіны – у Грайфсвальд. Цяпер яму 18 гадоў.

### Чаму не стаў каскадзёрам

Лінус пакуль не вырашыў, кім хоча працаваць. У дзяцінстве марыў стаць каскадзёрам – паказваць трукі ў фільмах. Але восем гадоў таму ўпаў з даху дома, пашкодзіў руку. Пасля гэтага жаданне рабіць трукі знікла.

Лінус упэўнены: бацькі хочуць, каб ён займаўся тым, што цікава. Каб сыну было добра. Бацькі хлопца працуюць выкладчыкамі ва ўніверсітэце.

Валанцёр цікавіцца псіхалогіяй, гісторыяй, мовамі. Хоча вывучыць рускую. Мяркуе, чым больш ведаеш моў, тым лепш разумееш свет.

– Буду валодаць мовай – змагу пагутарыць з большай колькасцю беларусаў. Хачу спазнаць краіну, не толькі ўбачыць, але прачытаць, спытацца, паразмаўляць з людзьмі на іх роднай мове.

**– Лінус, вы ведаеце, што існуе беларуская мова?**

– Канешне. Шкада, што на ёй так мала размаўляюць. Пакуль мала гутарыў з беларускамоўнымі людзьмі, але ўжо ведаю слова «сябар», – дзеліцца хлопец.

Некалькі разоў людзі звярталіся да яго на рускай. Бачылі, што хлопец не разумее, пераходзілі на нямецкую ці спрабавалі размаўляць жэстамі.

Лінус мяркуе, беларусы больш адкрытыя, чым немцы. Пару тыдняў таму быў у Баранавічах, пазнаёміўся з двума хлопцамі, якія вывучаюць нямецкую. Вельмі добра з ім паразмаўлялі, запрасілі ў кафэ. Стравы з беларускай кухні каштаваў мала. Еў бабку – спадабалася.

### Шпацыруе па 25 кіламетраў

Хлопец стаў валанцёрам, каб лепш спазнаць сябе. Выбіраў паміж двума гарадамі. Валанцёр **Табеа Зандэр**, якая раней працавала валанцёрам у Маладзечне, парэкамендавала менавіта яго. Лінус будзе тут жыць да жніўня 2019 года.

Па словах бібліятэкара залы замежных моў **Таццяны Летуновай**, Лінус – носьбіт мовы, ненашмат старэйшы за школьнікаў, таму навучанне павінна быць больш эфектыўным.

Валанцёр працуе ў школе прыкладна ад 8:15 да 14:00. Пасля трохі прагульваецца. У Маладзечне Лінус ужо паспеў наведаць праваслаўную царкву па Скарыны, Лядовы палац, харчовы рынак. Яму запомніўся гарадскі парк. І качкі, што плаваюць там, – любімыя птушкі Лінуса.

Пасля прагулак хлопец рыхтуецца да наступных заняткаў.

У канцы тыдня часта ездзіць у Мінск, знаёміцца са сталіцай. Праходзіць ад вакзала да плошчы Перамогі, шпацыруе па бакавых вуліцах. За дзень – каля 25 кіламетраў.

### На руцэ носіць білет

Заўважаю на руцэ Лінуса бранзалет. Гэта ўваходны білет на музычны фестываль «Hurricane» ў Ніжняй Саксоніі.

– Калі выкіну – з павязкай згублю памяць пра той выдатны дзень. У Германіі музычныя фестывалі праходзяць часта, можна сустрэць шмат людзей з падобнымі білетамі – да дзесяці на руцэ.

Акрамя музыкі, Лінус любіць падарожнічаць. Быў у Бельгіі, Італіі, Францыі, Люксембургу, Кітаі. А яшчэ чытаць. Любіць «Працэс» і «Пераўтварэнне» **Франца Кафкі**, творы **Паўля Маара**.

**– Які выраз у такі пераломны момант характарызуе ваша жыццё?**

– «Я не разумею», – са смехам на рускай адказвае хлопец.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**



Лінус Шыдэрмаер падчас гутаркі з беларусамі.

# Бяспечнае карыстанне газам у быце

МОЛОДЕЧНОГАЗ

**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак варта ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

Штогод у Беларусі адбываюцца няшчасныя выпадкі, у выніку якіх ёсць пацярпелыя, часам са смяротным зыходам. Трагічная іронія ў тым, што, каб жыхары захоўвалі самыя элементарныя правілы, выкладзеныя ў інструкцыі па эксплуатацыі газавага абсталявання і ў Правілах карыстання газам у быце, гэта дапамагло б пазбегнуць падобных здарэнняў і няшчасных выпадкаў.

У сувязі з паніжэннем тэмпературы вонкавага паветра павышаецца верагоднасць абмярзання агалоўкаў дымавых і вентыляцыйных каналаў для адводу прадуктаў згарання ад газавых праточных воданагравальнікаў, ацяпляльных катлоў і апаратаў. Кожны год на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструюцца выпадкі атручэння людзей чадам.

Пры спальванні газавага паліва, калі недастаткова паступае кіслароду паветра (закрытая фортачка, няспраўная вентыляцыя), то з прычыны няпоўнага згарання выдзяляецца чад (СА), які пры працы газавага ацяпляльнага абсталявання сыходзіць у спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы. У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. Пры няспраўнасці дымавых каналаў прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне. У выніку можа адбыцца атручэнне чадам.

Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

**Як выявіць чад? Для гэтага выкарыстоўваюцца спецыяльныя дэтэктары чаду.**

Усталюйце **дэтэктары чаду (датчык СА)** на кожным паверсе вашага дома, паблізу спальных пакояў для своечасовага папярэджання аб небяспецы.

Звяртаем вашу ўвагу, што **пажарныя апавяшчальнікі (датчыкі дыму), датчыкі (прыборы) выяўлення ўцечкі бытавога газу не выяўляюць чад.**

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

Сярод усіх жыццёвых каштоўнасцяў, несумненна, самай важнай з'яўляецца само жыццё. Задача кожнага чалавека – берагчы жыццё і здароўе сваё і сваіх блізкіх.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, **НАГАДВАЕМ:**

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, а ў зімовы перыяд рэгулярна аглядаць агалоўкі ўказаных каналаў, каб папярэдзіць іх абмярзанне;
- дымавыя і вентыляцыйныя каналы належыць перыядычнай праверцы і прачыстцы:

* **ацяпляльнага газавага абсталявання** – незалежна ад матэрыялу, з якога яны зроблены, – перад ацяпляльным сезонам.

* **праточных газавых воданагравальнікаў** – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны зроблены: цагляныя – не радзей за 1 раз у 3 месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў жараўстойлівага бетону – не радзей за 1 раз у год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавыкарыстальнае абсталяванне, **абавязаныя** выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць.

**Пры эксплуатацыі газавыкарыстальнага абсталявання ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- пакідаць без нагляду ўключаныя газавыя пліты, а таксама выкарыстоўваць іх для абагрэву памяшканняў;
- пакідаць адкрытымі вентылі балонаў, краны, які знаходзяцца перад газавыкарыстальным абсталяваннем і на ім, пасля таго, як закончыце карыстацца газавым абсталяваннем;
- самавольна падключаць, адключаць, перастаўляць, разбіраць і рамантаваць газавыкарыстальнае абсталяванне;
- зрываць пломбы, устаноўленыя на прыборах уліку расходу газу, і ўмешвацца ў работу прылад;
- сушыць рэчы над полымем гарэлак газавай пліты;
- выкарыстоўваць для сну памяшканні, у якіх устаноўленае газавыкарыстальнае абсталяванне;
- эксплуатаваць газавыя катлы і воданагравальнікі пры няспраўных дымавых і вентыляцыйных каналах, пры адсутнасці цягі і актаў праверак тэхнічнага стану каналаў;
- выкарыстоўваць агонь для выяўлення ўцечкі газу з газаправодаў і газавыкарыстальнага абсталявання;
- карыстацца газавыкарыстальным абсталяваннем, якое эксплуатуецца больш за 20 гадоў;
- уключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;
- устанаўліваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы.

**За парушэнне «Правілаў карыстання газам у быце»**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнская арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за спраўны стан вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, парушэнні патрабаванняў бяспекі пры эксплуатацыі бытавога газавыкарыстальнага абсталявання ўскладаецца на наймальніка (уласніка) жылых памяшканняў і дамоў.

Паважаныя абаненты! Не падвяргайце сваё жыццё і жыццё сваіх родных небяспецы.

**ВУ «Маладзечнагаз».**

УНП 100008077.




Фота забяспечана Аляксандрай ШОР.

Прадстаўніца «Адкрытай прасторы» Валянціна Сідоркіна (злева) і спікер Аляксандра Шор.

# Суседзі павінны згуртавацца, каб жыццё двара стала лепшым

**– А дзе вы жывяце? – чую голас суседкі злева і смех у зале. – Ці не на Скарыны (і дадае нумар дома)?**
**Ківаю.**
**– Жыву ў гэтым жа доме, – называе адрас жанчына і працягвае руку.**

МАЛАДЗЕЧНА

Як і я, маладзечанка **Ірына Тархан** прыйшла на чацвертую сустрэчу дыскусійнага клуба «Маладзечна гаворыць», якую зладзілі 21 кастрычніка ў «Адкрытай прасторы». На гэты раз па тэме «Добрасуседства». І мы, хаця гадамі жылі ў адным доме, пазнаёміліся толькі тут.

На сустрэчы запрошаныя госці дзяліліся досведам супрацы з суседзямі. Гэта старшыня жыллёвага кааператыва з Жодзіна, прадстаўніца мясцовай ініцыятывы СВАЕ **Аляксандра Шор**. І кіраўніца праекта «Эка-дружны пад'езд» **Таццяна Сіпачова**. Абедзве – кансультанткі асветніцкай установы «Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацый».

### Будаўнічае смецце проста закапалі

Дом Аляксандры размешчаны на ўскраіне Жодзіна, у так званым «фабрычным раёне». Разам з жыллём ёй дасталася разбітая дарога ля дома і смецце пад вокнамі.

З азеляненнем была праблема. Мікраараён будавалі на балоце.

**– Сталыя людзі памятаюць, як на гэтым месцы збіралі журавіны. Смецце, што засталося ад будоўлі, проста закапалі. Нават трава вырасці не магла. Азеляненне – адзін з першых крокаў, які згуртаваў мясцовых жыхароў.**

На экране ў гэты час – фота дасягненняў за гады кіраўніцтва жыллёвым кааператывам. «Гэта разметка... А вось тое, што ў нас на газонах», – задаволена ківае галавой Аляксандра. Каменныя грыбы, вожыкі, лебедзі і качкі выглядаюць акуратна і міла. «Так выглядае пад'езд». На здымку – зробленыя з пластыку і расфарбаваныя акрылам матылькі на сцяне, самаробныя карціны і вазон.

### Чаму была рада ўрагану

Каб вырашыць праблемы двара, не абысціся без супрацоўніцтва з суседзямі, упэўненая Шор.

– Мы таксама пацярпелі ад урагану «Хаўер» у 2013 годзе. Калі шчыра, гэта быў вельмі радасны для мяне момант (смех у зале), бо людзі з двара, што вы бачыце на фота, прыбіралі снег з дарогі ўвесь дзень. Не клікала нікога, людзі прыходзілі самі. А дворнік плакала, таму што не чакала такой дапамогі.

У 2017-м зладзілі свята двара. На пачатку вучэбнага года расказалі жыхарам, якія цэнтры дадатковай адукацыі ёсць у горадзе. Гэта было першае свята, якое ініцыяваў не выканкам.

На Новы год правялі «Навагодні Форд Баярд». Маладая сямейная пара пераапранулася ў Дзеда Мароза і Снягурачку, другая суседка склала праграму.

– А мы ж таксама гадоў дзесяць таму ладзілі Новы год у двары, – кажа маладзечанка Ірына. – Ставілі елку, вешалі гірлянды і цацкі.

### Навошта выносіць пуфік у пад'езд

Сустрэча працягваецца. Лектары заўважаюць, што з суседзямі перш за ўсё трэба вітацца.

А яшчэ можна сказаць «вы сёння цудоўна выглядаеце». Спытацца імя дзіцяці і даведацца нарэшце, хлопчык у суседзяў ці дзяўчынка. Ці якая мянушка любімага сабакі жыхароў кватэры насупраць.

– Не саромцеся звяртацца па дапамогу, асабліва да бабуль з першага пад'езда – ідэальныя ахоўнікі парадку – і за торбай пагледзяць, і за дзіцем, – усміхаецца Аляксандра.

**Пачаць можна з малога. Вынесці ў пад'езд пуфік, карціну ці кветку. Зрабіць дошку для аб'яў, калі такой дагэтуль няма, прыляпіць пазітыўны малюнак. Пасадзіць дрэвы, засеяць клумбу.**

Такім чынам вы абавязкова знойдзеце аднадумцаў. Аднак памятайце, што ідэі могуць спадабацца не ўсім.

– Неяк сустрэла суседа-аўтамабіліста. Абмеркавалі стварэнне паркоўкі. А потым пачула ад іншага суседа, што для кіроўцаў і так шмат месца і рабіць трэба дзіцячую пляцоўку. Абсалютна розныя думкі ў людзей.

Хочаш, каб нешта было зроблена хораша, зрабі гэта сам, мяркуе Аляксандра.

На экране – фраза «кароткі дапаможнік для пачаткоўцаў». І ўнізе прыпіска: «Пачынай!» Пасля гучнага смеху – кава-перапынак. Дзякуючы чайніку, які доўга не закіпае, людзі збіраюцца ля стала і дзеляцца ўражаннямі.

### «Кватэра-прытон» стала нармальнай

Хуткім часам выступленне пачынае **Таццяна Сіпачова**.

У яе пад'ездзе – 108 кватэр.

– Калі пераехала, было страшна заходзіць у пад'езд. Думала, жывуць адны алкаголікі ці наркаманы.

Прайшлі тры гады. За гэты час у пад'ездзе зрабілі касметычны рамонт, замянілі паштовыя скрыні. Вешалі іх самі жыхары. Нехта прынёс перфаратар, нехта зрабіў трафарэты для лічбаў.

А яшчэ выкрылі «кватэру-прытон», гаспадыня якой перашкаджала спаць па начах. Пасля суда ў доме стала ціха.

Удзельніца сустрэчы **Марыя Калеснікава** недаверліва глядзіць на Таццяну і пытаецца:

– А як вырашыць праблему з кватэрай, у якой жыве 20 катоў?

– Мы пісалі калектыўны зварот у ЖКГ – мяркуем, у такойсьці кватэры антысанітарная абстаноўка. Сабралі каля 60 подпісаў. Гаспадару далі штраф.

### Палепшыць двор можна танна

**З сяброўкай Таццяна стварыла сайт dom-eco.by, дзе ёсць ідэі для двароў, адукацыйныя праграмы, праграмы падтрымкі.**

У гэты час удзельнікам перадаюць заламінаваны ліст, на якім фота тых самых ідэй. Напрыклад, лаўкі ў двары можна зрабіць са звычайных паддонаў.

У канцы сустрэчы ўдзельнікі дыскусійнага клуба атрымалі ў падарунак маніфесты для матывацыі палепшыць свой горад.

**Таццяна КАСЬЯН.**



Другая палова 1950-х. Мае героі, яшчэ нежанатыя, гуляюць вяселле ў сябра.



Прабабуля і прадзядуля (у цэнтры) са сваімі роднымі на дні нараджэння ў праўнучкі Кацярыны (другая злева).

# «У мяне не было таты, а ў яго не было хаты»

## Маладзечанцы, якія разам 60 год, распавялі пра сумеснае жыццё

МАЛАДЗЕЧНА

**– Ён у мяне – самы лепшы, самы залаты! – распавядае маладзечанка Зінаіда Дзянісік пра свайго мужа Уладзіміра.**

Не хавае пачуццяў і муж: «Розныя дзяўчаты ў вёсцы былі. А я выбраў найлепшую дзяўчыну, свайго чалавечка», – кажа ён.

Думаеце, гэта маладыя ў свой мядовы месяц? А вось і не. Зінаіда і Уладзімір Дзянісікі жанатыя ўжо 60 год. Пажаніліся ў 1958 годзе, 26 лістапада. А да вяселля сустракаліся тры гады. Сёння жывуць у Маладзечне ў дачкі. На дваіх – шмат агульных успамінаў: пра ваеннае дзяцінства, вучобу ў адным класе, рамантычныя сустрэчы, вяселле з вясковымі музыкамі.

### Зінаіда – пра смерць бацькі, Уладзімір – пра тое, як спалілі вёску

Зінаіда і Уладзімір жылі ў суседніх вёсках Маладзечаншчыны. Ён – у Ваўчках, яна – у Бабрах. Былі знаёмыя з дзяцінства. «Мы з хлопцамі снежкамі кідаліся. А яна ляпіла гэтыя снежкі і мне падавала», – прыгадвае Уладзімір.

Нарадзіліся Дзянісікі ў 1932 годзе. І гады дзяцінства прыйшліся на вайну. Бацька Зінаіды загінуў на фронце ў Польшчы, калі дзяўчынцы было 12.

– Я была старэйшай, і яшчэ чацвёра малых, – распавядае жанчына. – Перад тым, як пайсці на фронт, бацька навучыў мяне ўсёй сялянскай працы: я ўмела і жаць, і касіць, і араць, і баранаваць. Мелі коніка і кароўку.

Уладзіміру ж хлопчыкам давялося ўбачыць, як родныя Ваўчкі спалілі фашысты:

– Гэта было на Звеставанне. На вуліцы пачуў стрэл, зірнуў у акно. А там **Манечка**, мая аднагодка, бяжыць і крычыць «Немцы!». Я за світку – і разам з бацькамі ўцякаць. Мы з маці далей адбегліся. А бацька, які яшчэ ў 1917-м з немцам ваяваў, прылёг адразу за кустом. Бо пасля той Першай вайны нага была параненая. Пераначаваўшы ў лесе, я пайшоў шукаць бацьку. Падыходжу да Ваўчкоў – а там ляжыць шмат забітых людзей: і дарослых, і дзетак. І тая самая Манечка. Нам наказала, а сама загінула. А бацьку тады знайшоў жывым у суседняй вёсцы. Тады ў якім адзенні засталіся, у тым і жылі. Не было чаго памяняць, усё згарэла. Цяпер сам дзіўлюся, што я гэта перажыў.

### «Хай бы даў аловак, калі так кахаў»

У школу ў Бабрах Зінаіда і Уладзімір пайшлі пасля вайны. Праўда, дзяўчынка не скончыла і двух класаў: трэба было дапамагаць па гаспадарцы. Хлопец скончыў чатыры класы. Тую пасляваенную вучобу добра памятаюць і сёння:

– Дзе хто на паперу натрапіць, то сшыткі сам сабе рабіў. Падручнікі былі, але давалі адзін на тры-чатыры вучні, – згадвае Зінаіда.

А Уладзімір затое быў багаты на алоўкі. Побач з яго хатай у Ваўчках да вайны стаяў магазін. Калі ў 1939 прыйшлі рускія, магазін пачалі разбіраць. Хто што адтуль цягнуў.

– Дарослыя бралі сярпы і косы, а я шмат алоўкаў набраў, – распавядае мужчына. – А ў школе гэтыя алоўкі ламаў на некалькі кавалкаў і кідаў на падлогу.

– Ён раскідае, а мы хапаем, – кажа жонка. – І цяпер гэтыя алоўкі ўзгадваю яму: хай бы даў хоць адзін, калі ён мяне так кахаў.

### Нават восеньскае надвор'е спрыяла маладым

Шлюбам пабраліся, калі абаім было па 25. «Старыя ўжо былі», – жартуе Зінаіда. А ў мужа на гэта свой адказ:

– У 1952-м мяне прызвалі ў войска. Служыў у Новачаркаску, на поўдні Расіі, у лётнай часці. У 1955 годзе вярнуўся – няма ні апранунць нічога, ні паесці. Тры гады абжываўся, ровар набыў.

– Так-так. Тады ж галоўнае ў хлопца – гэта ровар, – прыгадвае жонка.

Да вяселля выгадавалі цялушку, свінчо. Хоць з бедных сямей былі, а вяселле справілі. У сваты жаніх прыйшоў на Пакровы. Нявеста дзеля гэтага не пайшла на фэст у Добрах.

Вяселле гулялі два дні. Восеньскае надвор'е ў той год было незвычайна цёплым. Нявеста апранула шлюбную сукенку, пазычаную ў сяброўкі. А модны ў тыя часы вянок набыла ў Мінску. Жаніх у Гародзьках набраў матэрыялу на касцюм. Вясковыя музыкі ігралі на скрыпцы, гармоніку, барабане.

– Так і пажаніліся. У яго не было хаты, а ў мяне не было таты, – прыгадвае Зінаіда. – Прыйшла я да мужа ў Ваўчкі ў маленькую хатку без падлогі. У куце паставілі для нас ложак. А пад ложкам – яма выкапаная, у якой бульба захоўвалася.

### Пра даматканыя пялюшкі і двое паўзуноў

З часам у Ваўчках Дзянісікі пабудавалі сабе хату. Гаспадар пасадзіў сад, зрабіў добры склеп. Заўсёды трымалі вялікую гаспадарку: быў конь, карова, цялушкі, свінні.

Працавалі муж і жонка ў калгасе імя Кірава. Зінаіда была ў паляводчай брыгадзе, потым – звеннявой па льну. Апошнія 12 год перад пенсіяй – у ПМК-32. Муж спачатку быў механізатарам, потым пайшоў у жывёлагадоўлю. Заўсёды працаваў сумленна. У 1988 годзе яго, як аднаго з лепшых работнікаў, запрасілі на Усесаюзны з'езд калгаснікаў у Маскву. Там быў дзевяць дзён. Чатыры кашулі набыў сабе да гэтага з'езду, успамінае мужчына. А жонка жартуе: «Ты дзевяць дзён па Маскве гуляў, а мы з дзецьмі працавалі!»

У сям'і нарадзіліся дзве дачкі. Старэйшую, **Наталлю**, маці спавівала ў саматканыя пялюшкі. А пасля сваячка падарыла двое паўзуноў. З гэтымі паўзунамі старэйшую і выгадавалі. Малодшую, **Марыну**, было гадаваць ужо лягчэй.

### Як працаваў маленькі калгасік

У 1990 годзе з-за Чарнобыльскай аварыі дом у родных Ваўчках мусілі прадаць. Набылі ў Сакаўшчыне, што ў Валожынскім раёне. Там таксама пасадзілі сад. Гаспадар вельмі любіў і ўмеў прышчапляць дрэвы. Яблыні, прышчэпленыя ім, растуць шмат у каго і ў Валожыне, і ў Маладзечне. Хаця, чаго ён толькі не ўмеў, кажа жонка. І лыжкі драўляныя выразаў, і печкі складаў, і сякеры рабіў. Прывык увесь час імкнецца нешта рабіць. Сёлета вясной агарод капаць узяўся. Дачка з жонкай ледзь рыдлёўку адабралі.

Сялянскай працы Дзянісікі навучылі дзяцей і ўнукаў. Па словах гаспадыні, калі ў Сакаўшчыне разам з дзецьмі і ўнукамі сям'я выходзіла на поле працаваць, іх называлі «маленькі калгасік».

60-гадовае сумеснага жыцця мае героі адзначаць з самымі блізкімі. Збяруцца дзве дачкі з мужамі, трое ўнукаў, пяцёра праўнукаў. Адна з унучак, **Алеся**, якая цяпер жыве ў Аўстрыі, днямі прыехала з сям'ёй у Беларусь. Спецыяльна для таго, каб павіншаваць з юбілеем сваіх бабулю і дзядулю.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фотаздымкі з сямейнага архіва.**

# Жыла-была вёска: віляйчанін – пра гісторыю Астравоў

*Заканчэнне. Пачатак у №42*

ВІЛЕЙКА

**Асноўны здабытак жыхарам Астравоў даваў лес. Кожную вясну прыязджаў купец лесу яўрэй Норман.**




Сённяшнія любанскія школьнікі падарожнічаюць па вёсках, пра якія піша Уладзімір Альфер.

Сасна ішла на пабудовы і сталярныя вырабы, з бярозы рабілі мэблю, з елкі – паперу, з асіны – гонту і траску. На дровы бралі некандыцыю, а таксама тоўстыя сукі ад вялікіх дрэў. Пасля высечкі карчавалі пні і прадавалі на смалакурню. Лясы былі чыстыя, дагледжаныя.

Яшчэ нарыхтоўвалі мох для падсцілкі скаціне. Атрымліваўся добры гной. Я таксама дапамагаў дзеду нарыхтоўваць мох. Яго насякалі сякерай і спецыяльнымі крукамі аддзіралі ад зямлі. Скручвалі ў невялікія рулоны, везлі дамоў, потым падсушвалі і пазней выкарыстоўвалі.

Людзі ў вёсцы былі працавітыя, п'яніц не было, ніхто не сядзеў у турме, не служылі пры немцах у паліцыі. На святы ўсе збіраліся за адным сталом, спявалі песні. Асабліва добра выконвала рамансы **Казіміра Лях**.

### Нявесты з Астравоў былі працавітыя і з пасагам

Звычайна дзяўчаты выходзілі замуж у другія вёскі і ішлі жыць у сям'ю мужа. Нявесты з Астравоў былі працавітыя і з добрым пасагам. Калі ў сям'і не было хлопцаў, мужа прымалі жыць у сям'ю нявесты, так званага прымаку.

Мая бабуля **Ганна** выйшла замуж за дзеда **Мікалая** і перабралася жыць у сям'ю мужа, у вёску Кульшыно. У сям'і прадзеда заставаўся жыць яе малодшы брат **Міша**. Аднак у 12 гадоў ён захварэў і ў канцы 1920-х памёр.

Калі сыны заставаліся жыць у Астравах, бацькі дзялілі на іх зямлю і лес. У майго прадзеда Паўла было пяць братоў. Два, **Сцяпан і Мікалай**, жылі ў Астравах. Брат **Майсей** перайшоў у СССР. Потым выклікаў сям'ю. Пазней іх усіх рэпрэсавалі, Майсей згінуў у лагерах. Пасля вайны яго сын быў у вёсцы, сустракаўся з роднымі.

У польскі час уладай для вёскі быў солтыс. Пазней, з прыходам Чырвонай Арміі ў 1939 годзе, яго арыштавалі.

Солтыс збіраў падаткі, сачыў за чысцінёй і парадкам у падначаленых вёсках. У той час нельга было вырошчваць тытунь, гнаць самагонку. Прыкладна два разы на год у вёску наязджалі паліцэйскія на роварах ці брычцы, у прыгожай форме, нават пальчаткі былі белыя. Глядзелі, каб было чыста на вуліцы, у дварышчы, адрамантаваныя платы, прыбіральні. Загадвалі бяліць сцены хат.

### Адны дзівіліся неахайным чырвонаармейцам, іншыя – багатым вяскоўцам

У верасні 1939-га прыйшла савецкая ўлада ў Астравы. У суседніх Журыхах правяла сход з канцэртам. Сяляне прыйшлі прыгожа апранутыя. Спачатку вяскоўцы добра сустрэлі чырвонаармейцаў, толькі са здзіўленнем глядзелі на неахайны выгляд салдат і афіцэраў.

Чырвонаармейцы ж таксама здзіўляліся, гледзячы на заможнасць сялян, поўныя свірны збожжа, садавіны, гародніны, вялікую колькасць жывёлы і птушкі.

Самы цяжкі час пачаўся з прыходам немцаў. У 1941-1942 гадах партызанскі рух быў неактыўны. Нямецкія гарнізоны стаялі ў маёнтку Любань і ў Іжы. Вёску Журыхі партызаны спалілі ў пачатку вайны, каб там не было нямецкага гарнізона.

Людзі ў Астравах па-ранейшаму абраблялі зямлю, гадавалі жывёлу. У пачатку вайны немцы дазвалялі выкупляць з палону ваеннапалонных, і самы заможны ў вёсцы **Іван Казановіч** выкупіў **Івана Цвілікава**. Яму далі мянушку Рускі. Пасля вайны ён застаўся жыць у Любані.

### Пра партызанаў сваіх і чужых

У Любань падчас вайны вяскоўцы вазілі лішкі малака, здавалі на завод. Узамен немцы давалі соль, мыла, запалкі. Дзед па-ранейшаму хадзіў працаваць у Любань на пасеку. Немцы прывезлі з Галандыі ўпраўляючага па сельскай гаспадарцы **Дрыля**. Дзед з ім пасябраваў і быў галоўным здабытчыкам дрававжэй партызанам. Ад 1943 года партызаны забаранілі здаваць малако немцам.

За тры кіламетры ад Астравоў была база партызанскай брыгады «За Савецкую Беларусь», і ўсе суседнія вёскі давалі партызанам ежу і адзенне. Дзяўчаты вязалі з воўны світары, рукавіцы, шылі кажухі. Кожны вечар рабілі і пастаўлялі партызанам сыры, гародніну, саланіну, хлеб. У вёсцы былі чатыры лазні, якія палілі для партызан.

У партызанскай брыгадзе былі два хлопцы з вёскі: **Косця Завацкі** і **Мікола Хадзінскі**. Партызаны не рабавалі сялян.

Але зрэдку ў вёску заходзілі іншыя, невядомыя партызаны, якія рабавалі жыхароў.

Ад 1943 года немцы сталі шукаць, хто дапамагае партызанам. У вёсцы жыў партызан **Пётра Лях**. Аднойчы летам 1943 года ён разам з 16-гадовым **Мікалаем Ляхам** паехалі на заданне і трапілі ў засаду. Мікалая забілі, а Пётра ўцёк, аднак згубіў свае дакументы сувязнога. Неўзабаве ў вёску прыехалі немцы, і Пятра расстралялі разам з шасцігадовым сынам. Жонку **Марылю** забралі ў Вілейку, дзе расстралялі пазней.

У ліпені 1943 года Астравы маглі спаліць. Тады ў вёску прыйшлі тры партызаны, каб узяць падводы і перавезці выбухоўку да возера Нарач. Пакуль рыхтавалі падводы, у вёску знянацку прыехалі паліцэйскія з Іжанскага гарнізона. Партызаны сталі ўцякаць. Паліцаі заўважылі, пачалі страляць, але партызаны ўцяклі. Тады паліцаі вырашылі спаліць вёску за сувязь з партызанамі.

Але ім начальнік-немец, інвалід Першай сусветнай, забараніў гэта зрабіць. Некалі ён ваяваў у гэтых краях.

### Лес наступае на вёску

Летам 1944-га немцаў прагналі. Сталі ствараць лясніцтвы, і дзед пайшоў працаваць ляснікам. З сабой туды забраў і свайго каня. Чатырох мужчын з вёскі прызвалі ў армію. Аляксандр Лях быў на фронце мінамётчыкам, меў шмат узнагарод.

Спакой у вёсцы наступіў не скора, бо паліцаі хаваліся ў лесе. Гэта цягнулася амаль дзевяць гадоў. Спачатку яны заходзілі ў вёску за ежай і адзежай. Вялі сябе нахабна, дзеда хацелі расстраляць.

У 1948-м у Астравах арганізавалі калгас. Зямлю забралі, пакінулі толькі прысядзібныя ўчасткі. Забралі коней з падводамі і інвентаром. Людзям стала жыць цяжэй. Выехаць не маглі, бо сялянам не давалі пашпарты.

Сям'і майго дзеда жылося лягчэй. У леснікоў быў добры заробак, выдавалі муку. Яшчэ дзед трымаў вялікую пасеку, а мёд у той час быў дарагі…

Сёння ў Астравах ніхто не жыве. Жыццё там ёсць толькі летам. Зараслі лесам сенажаці, лес наступае на вёску…

**Уладзімір АЛЬФЕР, Вілейка.**

---

● КАЛЯНДАР

**27 ЛІСТАПАДА**

**1430.** Памёр Вялікі князь **Вітаўт**. Нарадзіўся ў 1350 годзе.

**1890.** Нарадзіўся **Віктар Шутовіч** (вёска Шутавічы, цяпер Смаргонскі раён), культурны дзеяч, каталіцкі святар, вязень савецкіх канцлагераў.

**29 КАСТРЫЧНІКА**

**80 гадоў** з дня нараджэння **Янкі Саламевіча** (1938 – 2012), беларускага літаратуразнаўца, крытыка, фалькларыста, бібліёграфа, перакладчыка.

**1936.** Памёр **Фердынанд Рушчыц**, мастак, графік, тэатральны дэкаратар і педагог. Нарадзіўся 10 снежня 1870 года ў маёнтку Багданава, цяпер Валожынскі раён.

**30 КАСТРЫЧНІКА**

**1728.** 230 гадоў з дня нараджэння **Марціна Пачобута-Адляніцкага**, беларускага астранома, матэматыка, асветніка, рэктара Галоўнай віленскай школы. Памёр 8 лютага 1810 года.

**1883.** 135 гадоў з дня нараджэння **Янкі Быліны**, сапр. Ян Семашкевіч (вёска Лакцяны, цяпер Астравецкі раён), беларускага рыма-каталіцкага святара, паэта, драматурга. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1907), у тым жа годзе пасвечаны ў святары. Служыў у касцёлах на Слонімшчыне, Вілейшчыне, Ашмяншчыне, Віленшчыне. За ўжыванне беларускай мовы ў казаннях праследаваўся польскімі ўладамі. Арыштоўваўся НКВД. Апошнія гады жыццця правёў на Беласточчыне. Аўтар двух зборнікаў паэзіі і некалькіх рэлігійных кніг. Яго кніга вершаў «На покуці», выдадзеная ў 1934 годзе, была канфіскавана ўладамі міжваеннай Польшчы. Памёр 18 лютага 1956 года і пахаваны ля касцёла ў Бомблі.

**1921.** У Мінску заснаваны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

**1 ЛІСТАПАДА**

**85 гадоў** з дня нараджэння **Вячаслава Адамчыка** (1933–2001), беларускага пісьменніка.

**1909.** Нарадзіўся **Іван Касяк** (вёска Гіры, цяпер Вілейскі раён), беларускі палітычны дзеяч. Скончыў політэхнічны інстытут у Львове. З лета 1941-га – у Мінску, дзе супрацоўнічаў з нямецкімі акупантамі і беларускімі калабарантамі. У 1944-м быў прызначаны на пасаду намесніка старшыні Беларускай цэнтральнай рады па Глыбоцкай акрузе. Ад лета 1944 года – у эміграцыі, а з 1949 года – у ЗША. Аўтар даследаванняў па гісторыі Беларусі. Памёр 13 сакавіка 1989 года ў Чыкага, ЗША.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Круглы стол: Назбіраў грошай на некалькі месяцаў

## Чым жывуць вясковыя актывісты і чаму не вяртаюцца ў горад

**Права пераехаць у вёску да чыстага паветра і здаровага ладу жыцця ёсць у кожнага. Але робяць так пакуль адзінкі. Чаму актывізм на вёсцы – усё яшчэ рэдкасць, мы запрасілі паразважаць на круглым стале жыхароў нашага рэгіёна.**




Для таго, каб правесці фестываль «Дом ля возера» ў Навасадах, гаспадар сядзібы Алег Куралесаў аддаў грошы, якія збіраў на Швейцарыю.

У абмеркаванні тэмы ўдзельнічалі актывісты розных мясцін. **Уладзіслаў Юркоў** жыве сёмы год у вёсцы Валожынскага раёна. З жонкай **Аўгіняй Манцэвіч** стварылі сайт DownShifter.by. Сайт створаны для тых, хто пераязджае на вёску, каб на прыкладах іншым было прасцей прызвычаіцца да новага жыцця. **Наталля Юшкевіч** нарадзілася ў Мінску, але пасля пераехала ў малое Запруддзе на Валожыншчыне. Разам з Уладзіславам яны ладзяць творчыя мерапрыемствы. Марыць стварыць «Сад 80 смакаў» і сацыяльную сетку для актыўных вяскоўцаў.

Каардынатар праграмы вясковых актыўнасцяў «Вёскалаб» **Юлія Лісіца** нейкі час жыла на Валожыншчыне.

**Алег Куралесаў** – гаспадар сядзібы ў Навасадах на Вілейшчыне. **Павел Хаванскі** жыве ў Вілейцы і лічыць, што часам праблемы вёсак і невялікіх гарадоў падобныя. **Аляксандра Парахня** актыўна далучаецца да актыўнасцяў у розных населеных пунктах.



Уладзіслаў Юркоў.



Юлія Лісіца.



Павел Хаванскі.



Аляксандра Парахня.



Алег Куралесаў.

### Чаму пераехалі ў вёску

**Юркоў**: Мы з жонкай у 2010-2011 гадах вандравалі па свеце. Калі вярнуліся, было сумна ў Мінску – не Буэнас-Айрас. Але ў краіне ёсць месцы нават лепшыя за Аргенціну. Мы такое знайшлі.

Калі жывеш у адным месцы, у цябе нібы з'яўляецца лупа і ты бачыш свет усё бліжэй і бліжэй. Нарэшце бачыш захады і ўсходы, неба і птушак. Усё, чым займаешся, становіцца больш усвядомленым. У вёсцы вельмі ціха. На сваім досведзе я праверыў – калі вакол ціха, ты чуеш сябе. Разумееш, што табе насамрэч трэба і можаш па-сапраўднаму рэалізаваць сябе.

У горадзе мы ўбудаваныя ў сістэму. Жывём па сцэнару беларускага шляху да шчасця: школа – універсітэт – праца, зарабіць на жыллё ў Мінску. І звычайна мары больш няма – таму што кватэра ў Мінску дарагая для беларуса. Пакуль рэалізуеш гэту беларускую мару, жыццё праплывае. І ты не думаеш, як рэалізаваць сябе.

**Пры гэтым мара абсалютна зразумелая, таму што жытло неабходна кожнаму. На вёсцы ж этап зараблянне на жытло ўжо пераадолены, і можна ісці далей.**

**Куралесаў**: У мяне стаяў выбар – жыць далей у Германіі, атрымліваць від на жыхарства ці вярнуцца ў Беларусь. Я выбраў Беларусь па прычыне свабоды. Па першае, ты ўжо задаволіў патрэбу ў даху над галавой. Па-другое, ты свабодны ад ціску рэкламы. Гэта мільярды долараў, якія штодня ціснуць на цябе велізарным прэсам. У такім соцыуме жыць па сваіх прынцыпах складана.

Жыццё ў вёсцы – чысты аркуш, на якім можаш рабіць, што хочаш. Там глядзіш у люстэрка на сябе сапраўднага. У горадзе табе патрэбныя рэчы, каб даказаць штосьці людзям вакол цябе. У вёсцы гэта не трэба.

**Юшкевіч**: Аднойчы я наведала музей «Азярцо», дзе размешчаныя драўляныя дамкі розных перыядаў. І там на мяне нахлынула фізічнае адчуванне, што вось яно тое, як я хачу жыць.

Шукала магчымыя месцы для жылля. Знайшла такое. І там закахалася, цяпер жывём з мужам у вясковым доме.

Яшчэ адна прычына пераезду ў тым, што ў горадзе 80% таго, што перад маімі вачыма – асфальт ці бетон, шэрыя і чорныя колеры. Я жыла ў прыватным доме ў Мінску, недалёка была дарога. Увесь час грукат ад машын быў такі, нібы там апакаліпсіс. Для мяне горад – гэта не месца, дзе варта жыць.

Цяпер разумею, што жыццё ў горадзе і нашмат даражэйшае.

**Лісіца:** Мы з хлопцам доўга шукалі месца для супакаення. Пагоркі Валожыншчыны адгукнуліся ў сэрцы. Пераехаць вырашылі таму, што былі перагружаныя візуалам і гукамі горада. Хацелася піць каву, лежачы ў траве, глядзець на зоркі, дыхаць чыстым паветрам – і не раз на месяц, а як мага часцей.

**Хаванскі**: Мне падабаецца жыць у Вілейцы, але ёсць дом за горадам, яшчэ там жылі прабабуля і прадзед. У Мінску мне не падабаецца.

У невялікім горадзе не так дорага набыць дом. Калі дом на ўскрайку горада – там таксама ціха і ёсць прырода.

**Парахня**: Я пакуль жыву ў горадзе. Але ўсё тое, пра што вы кажаце, адгукаецца ўва мне. Пакуль я на раздарожжы – горад ці вёска. Ёсць рэчы, якія яшчэ трымаюць у горадзе.

**Куралесаў**: Раз на два тыдні мне даводзіцца ехаць у горад. Зрабіць справы, закупіць прадуктаў. Заўсёды імкнуся арганізаваць паездку так, каб правесці ў горадзе як мага менш часу. Пішу спіс спраў і пазначаю час, які на яго пойдзе.

### Ці прасцей на вёсцы быць актыўным?

**Юркоў**: Нашы вельмі рады, калі нешта адбываецца. Робіш канцэрт – ідзе ўся вёска. Наш сельвыканкам добра ставіцца да ідэй. Можа таму, што актывісты з выканкамам працавалі і да мяне. Але не паўсюль так. Сябры пад Гомелем

# у Швейцарыі, аддаў на свята ў вёсцы



Куралесаў імкнуўся паказаць альтэрнатыўны адпачынак і гасцям, і мясцовым жыхарам.



Фота vk.com/dom.n_fest.

На фэсце былі розныя пляцоўкі, на якіх можна было не толькі адпачыць, але і атрымаць карысць.



Зоя Хруцкая.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Наталля Юшкевіч.

расказвалі, што некалькі хат у вёсцы спаліў выканкам – каб больш ніхто не купіў. Таму што адносіны з актывістамі не склаліся.

Разам з выканкамам мы зладзілі фэст «Суседзі» ў Гародзьках. Калі звяртаешся, напрыклад, дарогу трэба рабіць, робяць. Можа, не так хутка, як у горадзе.

**Лісіца**: Фэст «Суседзі» быў цікавым досведам, таму што мы, з аднаго боку, хацелі зрабіць тое, што блізка нам, а з іншага, гэта павінна было падыходзіць уладам па фармаце.

Прыйшло даволі шмат людзей, за фестываль дзякавала адміністрацыя. Валожыншчыне пашанцавала, таму што тут адкрытыя людзі, якія хочуць паляпшаць і культуру, і жыццё.

Галоўнае – каб тое, што ладзіш, было актуальна для мясцовых.

**Куралесаў**: Я ведаю, што па законе аб масавых мерапрыемствах, каб пазбегнуць дагавораў з «хуткімі», міліцыяй і бюракратыяй, калі плануецца да 250 чалавек, дастаткова выканкаму паведаміць. Узгадняць не абавязкова. Накіраваў выканкаму паведамленне, што будзе праходзіць такійсьці форум з такой вось праграмай. Для іх быў шок, што ім толькі паведамляюць.

Улада аргументавала, што пакуль не ведаюць, што за форум. Паглядзяць, як і што, а на наступны год падумаюць, ці падтрымаць.

Адзінае, што я прасіў – даць аўтобус. Таму што на фэсце выступалі прафесары, былі важныя дыскусіі. Аргументавалі, што ў нас супрацоўніцтва няма.

**Юшкевіч**: У вёсцы мяне прыемна ўразіла стаўленне прадстаўнікоў улады. Калі званіла па розных побытавых пытаннях, усе адразу адказвалі. Простае і чалавечае стаўленне, а не сацыяльная роля.

Мы ладзілі фестываль на Грушаўцы ў Мінску. Спачатку ўспрымалі насцярожана. І калі прадстаўнікі адміністрацыі зразумелі, што ў мяне мэты простыя і шчырыя, былі рады далучыцца.

Мясцовыя натхніліся, што могуць у гэтым удзельнічаць. Але быў момант, які многае сапсаваў. У нас быў свабодны мікрафон. Група, з якой мы абмяркоўвалі, што ў нас забарона на тэму рэлігіі і палітыкі, праспявала палітычную песню. Канешне, гэта напружыла адміністрацыю. І калі мы ў будучым спрабавалі паўтарыць фэст, нам ставілі блокі.

**Хаванскі**: У нас з уладамі цяжка супрацоўнічаць. Думаю, баяцца за сваё месца. Дазволіш нешта – а праверка не ўхваліць. Фестываль «Гонар продкаў» спачатку дазволілі, а праз год не дазволілі, яшчэ праз год дазволілі зноў.

### Галоўныя праблемы, з якімі сутыкаюцца вясковыя актывісты

**Юркоў**: Асноўная праблема ў вёсцы – алкаголь. У мяне два суседы памерлі. Ён танны, да яго прывучаюць з дзяцінства. Мне, напрыклад, фізрук у Гомелі наліваў гарэлку ў школе. З алкаголем узрастае крымінал. Сёння на круглы стол не патрапіла старшыня выканкама, таму што на вёсцы панажоўшчына.

Яшчэ адна праблема – трактарысты. Яны страшна разбіваюць дарогу, а дарогі ў вёсцы – вялікая каштоўнасць. І не падымаюць плугі. Я не магу хутка заехаць у суседнюю вёску, таму што дарогі разбілі трактарысты. Выправіць гэта можна хіба толькі культурай.

На маім участку трактарыст вырашыў развярнуцца – у мяне і цяпер засталіся дзве каляіны.

Любое грамадства такое, наколькі развіта культура.

**Лісіца**: Нуль месцаў, дзе вяскоўцы могуць паглядзець кіно, схадзіць на канцэрт.

**Юркоў**: А ад таго, што няма культуры, трактарыст не падымае плуг.

**Лісіца**: Тое, пра што ўжо сказалі, для мяне вынік. Людзі не разумеюць, што могуць уплываць на сітуацыю. Не адчуваюць сябе гаспадарамі мясцовасці. Няма разумення, што калі бачыш праблемы, можаш уплываць на іх вырашэнне.

Людзі не ведаюць, куды сябе прыткнуць. Алкаголь – гэта спосаб заглушыць свае патрэбы.

Да таго ж, многія не разумеюць, куды можна рухацца.

Першапачатковая воля чалавека – узяць адказнасць за сваё жыццё.

Мне падаецца, што ў нашай краіне можна вырашаць першапачаткова толькі прымусова. Штрафы за тое, што не сартуюць смецце, напрыклад.

**Юшкевіч**: Важна арганізоўваць месцы, дзе можна развівацца і праводзіць вольны час. У гэты вечар ён мог выпіць, але ідзе на свята, дзе будуць суседзі.

Гэта павінна быць месца, дзе ён прыходзіць не на гатовае і незразумелае. Яго варта далучыць да арганізацыі мерапрыемства. У кожнага ёсць уменне ці зацікаўленасць, якімі можа падзяліцца. Напрыклад, у маладосці іграў на гітары – няхай пайграе для суседзяў.

Калі дзейнічаць праз інтарэс – «Ну добра, прыйду, пайграю». На Грушаўцы так і было. Усе казалі, тут алкаголікі, нікому нічога не трэба. Кажу: «Ты не за іншых адказвай, вось асабіста ты, што любіш?» – «Ну, я ў шахматы гуляю». – «Ну дык прыйдзі і пагуляй». Тут гуляюць у шахматы, тут садзяць кветкі, а там танцуюць.

Не трэба зацыклівацца на творчых прафесіях.

**Куралесаў**: Я збіраў грошы, спачатку думаў на іх некалькі месяцаў пажыць у Швейцарыі. А пасля вырашыў укласці іх у фестываль «Дом ля возера». Каб паказаць мясцовым альтэрнатыву.

Наконт алкаголю для мяне ёсць канкрэтная мяжа. Алкаголь як мэта мерапрыемства і як сродак. Калі прыходзіш напіцца – гэта адно. А калі хочаш пазнаёміцца, паразмаўляць – зусім іншае. У нас людзі весяліліся, і алкаголю амаль не было.

Усім падабалася, было з карысцю. Маёй мэтай было паказаць альтэрнатыўны адпачынак.

У бліжэйшым пасёлку ёсць музычная школа, а на канцэрты прыходзяць толькі бацькі дзетак, якія выступаюць.

Напэўна, праблема ў тым, што ў дзяржавы існуе планавае выкананне. У Дамах культуры працуюць не з тым, што трэба людзям у гэтым населеным пункце, а тое, што прадпісалі.

Важна, каб на месцах культурай займаўся чалавек, які хоча акультурыць трактарыста, а не застацца на месцы.

Для мяне алкаголь – нявырашаная вялікая праблема. Я гатовы наймаць на працу мясцовых жыхароў. Яны будуць камфортна працаваць і зарабляць. Я думаў, што калі пакажу альтэрнатыву мясцовым мужыкам, яны зменяцца. Буду запрашаць на вечары, каб паказаць альтэрнатыўны адпачынак. На жаль, усё вельмі сумна.

> **Мозг хоча задавальнення. З дзяцінства нас прывучылі, што самы хуткі спосаб – не ігра на гітары, якой трэба вучыцца, не асалода ад прыроды ці прафесійная рэалізацыя. А выпіў – і ўжо шчаслівы.**

Для сінапсаў выбудоўваецца дарожка, якой звычайна ідуць. А іншыя зарастаюць. Для тых, хто больш дарослы, гэтая дарожка настолькі пратаптаная, што пакуль нашы метады для іх не працуюць.

Каля мяне жыве мужык, які выдатна робіць нажы. Думаў дапамагчы, каб зрабіў на гэтым бізнес. Здаецца, нешта пачыналася, прыходзіць з алкаголем сябар – і напіваецца.

Апускаюцца рукі ад гэтага.

**Хаванскі**: Калі прапануеш наведаць мерапрыемства мясцовым навучэнцам, яны падымаюць на смех. І ідуць піць. Не столькі алкаголь праблема, колькі яго колькасць.

У Вілейцы мала куды можна схадзіць. Нават гарадскіх дыскатэк няма.

**Парахня**: У горадзе шмат людзей і магчымасцяў, але я бачу стэрэатып «я нічога не памяняю». Калі гавараць пра вёску, то ўсё смецце перад тваімі вачыма, ты бачыш вынік. У горадзе ты бачыш, што тысячы іншых гэтага не робяць.

### Актывісты – гэта каапераця ці канкурэнцыя?

**Юшкевіч**: Актывісты могуць аб'ядноўвацца – ладзіць сумесныя маршруты, дзяліцца рэсурсамі.

**Лісіца**: Я за кааперацыю. Але буду рада, калі мы дарасцём і да канкурэнцыі. Пунктаў сутыкнення ў актывістаў вельмі шмат.

**Юркоў**: Вельмі добра, што ёсць актывісты. Мерапрыемствы адбываюцца нячаста, таму канкураваць няма за што.

**Юшкевіч**: Ты пачынаеш, гэта складана, затое наступным будзе прасцей.

**Куралесаў**: Барыс Цітовіч, які пераехаў у маладосці ў вёску і займаецца актывізмам, – мае натхненне. У сталасці я хачу быць падобным да яго.

У актывістаў падобныя мэты, і толькі аб'яднаннем мы можам дабіцца выніку.

**Хаванскі**: Я думаў у вёсцы адкрыць качалачку, можа нехта далучыцца.

**Парахня**: Я думаю, што ў актывізму не павінна быць межаў. Вяскоўцы могуць ладзіць мерапрыемствы ў горадзе, а гараджане – прыязджаць са сваімі ідэямі і каштоўнасцямі ў вёску.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

«Рэгіянальная газета» працягвае серыю публікацый на тэму вясковага актывізму. У №41 мы друкавалі гісторыю Волі Трубач, якая займаецца адраджэннем дома прадзеда ў вёсцы Любкі Вілейскага раёна і ладзіць мерапрыемствы для мясцовых жыхароў і прыезджых гасцей. У наступных нумарах мы працягнем тэму і паразмаўляем з прадстаўнікамі ўлады, каб яны падзяліліся сваім бачаннем гэтай тэмы.

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Чысць» саступіла «Баранавічам»

МАЛАДЗЕЧНА

Каманда Маладзечанскага раёна гуляла на выездзе ў Баранавічах.

Спаборніцтвы скончыліся з лікам 2:1 на карысць гаспадароў. З боку маладзечанцаў адзіны гол забіў **Іван Верас** на 63-й хвіліне.

«Чысць» застаецца на 15-м радку турнірнай табліцы і на дзевяць ачкоў саступае папярэдніку – якраз «Баранавічам».

## «Смаргонь» прайграла на выездзе

СМАРГОНЬ

20 кастрычніка каманда гуляла ў Жыткавічах.

Гульня скончылася з лікам 1:0 на карысць гаспадароў.

Па выніках розыгрышу 27 тура «мядзведзі» апусціліся на дзясяты радок турнірнай табліцы.

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Славия (Мозырь) | 25 | 18 | 7 | 0 | 57-10 | **61** |
| 2 | Энергетик-БГУ (Минск) | 26 | 19 | 4 | 3 | 60-22 | **61** |
| 3 | Белшина (Бобруйск) | 25 | 17 | 4 | 4 | 54-19 | **55** |
| 4 | Лида | 25 | 16 | 4 | 5 | 40-14 | **52** |
| 5 | Нафтан (Новополоцк) | 25 | 9 | 9 | 7 | 26-23 | **36** |
| 6 | Гранит (Микашевичи) | 26 | 8 | 11 | 7 | 28-29 | **35** |
| 7 | Локомотив (Гомель) | 25 | 8 | 10 | 7 | 37-25 | **34** |
| 8 | Слоним-2017 | 25 | 9 | 6 | 10 | 36-36 | **33** |
| 9 | ЮАС (Житковичи) | 25 | 6 | 9 | 10 | 21-31 | **27** |
| 10 | Сморгонь | 25 | 6 | 9 | 10 | 17-38 | **27** |
| 11 | Химик (Светлогорск) | 25 | 7 | 5 | 13 | 26-38 | **26** |
| 12 | Орша | 25 | 6 | 3 | 16 | 26-45 | **21** |
| 13 | Волна (Пинск) | 25 | 4 | 7 | 14 | 20-47 | **19** |
| 14 | Барановичи | 25 | 4 | 7 | 14 | 16-32 | **19** |
| 15 | Чисть | 26 | 1 | 7 | 18 | 28-83 | **10** |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца першай лігі.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## Ашмянец Ілля Цюніс сабраў за гульню «покер»

АШМЯНЫ

Гульня 20 кастрычніка закончылася для гаспадароў трыумфам.

Яны перамаглі гасцей, гомельскі «Будпрам», з лікам 9:0.

**Ілля Цюніс** стаў аўтарам чатырох галоў за адну гульню. Такую паспяховую камбінацыю футбалісты называюць «покерам». Ён забіў у вароты саперніка на 13-й, 31-й, 37-й і 61-й хвілінах.

**Дзмітры Купнеўскі** і **Януш Ладуцька** зрабілі па галявым дублі. Купнеўскі забіў на 18-й і 81-й хвілінах. Ладуцька – на 66-й і 88-й.

Яшчэ адзін гол трапіў ад **Максіма Савосцікава**.

Пасля 27 тура «Ашмяны» ўмацаваліся на трэцім радку турнірнай табліцы. Яны на восем ачкоў саступаюць мінскай камандзе «Крумкачы», на дзевяць – лідару, брэсцкаму «Руху».

## «Маладзечна» не саступіла «СМІаўтатрансу»

МАЛАДЗЕЧНА

Каманда гуляла 20 кастрычніка ў гасцях.

Гульня скончылася з лікам 3:3.

З боку маладзечанцаў зрабіў галявы дубль **Мікіта Дудо** на 49-й і 58-й хвілінах. Яшчэ адзін мяч на рахунку **Сямёна Хаткевіча**.

Каманда паднялася ў турнірнай табліцы з 11 радка на дзясяты. Яна на тры ачкі саступае «СМІаўтатрансу» са Смалявіцкага раёна.

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Рух (Брест) | 25 | 20 | 4 | 1 | 79-16 | **64** |
| 2 | НФК Крумкачы (Минск) | 25 | 20 | 3 | 2 | 72-14 | **63** |
| 3 | Ошмяны-БГУФК | 25 | 18 | 1 | 6 | 80-28 | **55** |
| 4 | Спутник (Речица) | 26 | 16 | 4 | 6 | 68-21 | **52** |
| 5 | Ивацевичи | 25 | 11 | 5 | 9 | 44-35 | **38** |
| 6 | Осиповичи | 25 | 11 | 5 | 9 | 47-37 | **38** |
| 7 | Узда | 24 | 11 | 3 | 10 | 50-43 | **36** |
| 8 | Виктория (Марьина Горка) | 26 | 10 | 4 | 12 | 35-46 | **34** |
| 9 | СМИавтотранс (Смолевичский р-он) | 25 | 8 | 4 | 13 | 25-50 | **28** |
| 10 | Молодечно | 26 | 6 | 7 | 13 | 41-62 | **25** |
| 11 | Клецк | 24 | 7 | 4 | 13 | 30-52 | **25** |
| 12 | Неман-Агро (Столбцы) | 25 | 6 | 4 | 15 | 32-89 | **22** |
| 13 | Горки | 25 | 5 | 6 | 14 | 35-64 | **21** |
| 14 | Энергетик-БГАТУ (Минск) | 24 | 5 | 4 | 15 | 32-57 | **19** |
| 15 | Бумпром (Гомель) | 22 | 2 | 2 | 18 | 14-70 | **8** |

Ілюстрацыя football.by.

Турнірная табліца другой лігі.

# Крычалкі пасля матча гучаць у галаве

## Заўзятары «зуброў» расказалі, чым жыве фан-сектар

МАЛАДЗЕЧНА

**Любімую крычалку 16-гадовая маладзечанка Дар'я пасля матчаў спявае і на вуліцы. «Оле-Ола, защищай свои цвета. Оле-Ола, мы «Динамо», мы семья».**



Фота забяспечанае Дар'яй АДАМОВІЧ.

**Вязанае зубраня заўзятаркі Дар'і Адамовіч. Давайце прыдумаем разам, як яго назваць.**

**Яну Міхайлаву** 19 гадоў, **Дар'і Чурынінай** – 16. Мы пагутарылі з заўзятарамі хакейнага клуба «Дынама-Маладзечна», каб даведацца, чым жывуць сёння прыхільнікі каманды.

Хлопец стаў балельшчыкам толькі два месяцы таму – на хакей яго прывёў сябар.

– Зацягнула адразу. Дагэтуль ніколі не заўзеў, а цяпер вельмі палюбіў. Моцная энергетыка, добрая каманда, хочацца падтрымаць родны горад. Гадоў у 12 быў на гульні мінскага «Дынама», не зачапіла.

Сам Ян ужо паспеў прывесці на хакей траіх сяброў. Хлопец ходзіць на кожны дамашні матч.

### Уваход у фан-сектар – па паролі

Балельшчыкі білеты не набываюць – уваходзяць у фан-сектар па паролі. Новага чалавека першы раз праводзіць нехта з фанатаў. Потым у сацыяльных сетках актыўным заўзятарам называюць пароль.

– Здаецца, больш тых, хто прыйшоў аднойчы і застаўся. Да нас на дамашнія матчы нават са Смаргоні прыязджаюць. Але хацелася б, каб гледачоў было больш.

Дзяўчына хлопца на матчы не ходзіць, вучыцца ў Маскве. Але заўсёды кажа перад матчам, што каманда пераможа, зараджае добрым настроем.

– Калі «Дынама прайграе», хвалююся, але ў камандзе ніколі не расчароўваўся.

Пасля гульні Ян пераглядае матчы, шукае памылкі, якія дапусціла каманда. І не перастае верыць у яе моц.

– Часта зрываю голас на матчах, пасля дома п'ю гарачую каву. Калі вяртаюся з матча, у галаве гучаць крычалкі. Нават цяпер, хаця размова быў учора (заўвага «РГ»: гутарка адбывалася 19 кастрычніка).

Крычалкі прыдумваюць у агульным чаце. Ці пасля гульняў збіраюцца ў кафэ. Раней нешта падглядалі, цяпер спрабуюць рабіць свае.

– Крычалак шмат, але палову не прыгадваем падчас матча. Прыходзяць новыя фанаты, якія іх не ведаюць.

### Колькі каштуе атрыбутыка

Атрыбутыку фанаты набываюць у інтэрнэце. Фан-сектар «скідваецца», калі рвецца сцяг. З-за моцных удараў часта ламаюцца барабаны – на іх пазменна працуюць тры барабаншчыкі. У перапынках ахвотна падпускаюць да інструментаў дзяцей. «Хай паспрабуюць, у радасць, калі дзеці заўзеюць з намі».

Ян спадзяецца, што ў Маладзечне адкрыюць краму з фанацкім адзеннем.

### Хакей нечакана зачапіў

Дзяўчына ў хакеі тры з паловай гады. Прыхільніцай стала спантанна. Дар'я танцавала ў дзіцячым цэнтры культуры «Расток». Неяк давялося выступаць падчас плэй-оф. Пасля засталася на гульні «Дынама-Маладзечна» – і хакей нечакана захапіў.

На фан-сектар ходзіць ад лютага. Раней глядзела з трыбуны, пабойвалася, што сярод фанатаў толькі хлопцы. А тут дамовілася з сяброўкамі паспрабаваць. Аказалася, у сектары шмат знаёмых.

Цяпер Дар'я імкнецца хадзіць на ўсе матчы, але атрымліваецца не заўсёды. Дзяўчына вучыцца ў 11 класе, займаецца з рэпетытарамі. Калі трапіць на хакей няма магчымасці, глядзіць трансляцыі.

– «Дынама» – родная каманда, моцны бок – згуртаваны калектыў. Без яго цяпер нікуды, – упэўненая Дар'я – Калі Файкоў толькі прыйшоў, каманда часта прайгравала. Бывала, нават не хацелася ісці на гульні, быў страх, што зноў не пераможам. Але цяпер трохі падцягнуліся, сталі выйграваць.

### Крычу нават калі баліць горла

Сваркі паміж заўзятарамі адбываюцца, але звычайна па дробязях. Напрыклад, пачатковец адмаўляецца вучыць крычалку, і яго даводзіцца пераконваць. Вялікіх – чатыры-пяць штук.

– Калі сапраўды заўзееш за каманду, крычалку вывучыш адразу. Самую доўгую прачытала разоў дзесяць, запомніла, – кажа дзяўчына. – Калі падчас матчаў моцна баліць горла – часта хварэю – пакрычу, трохі памаўчу і зноў пачну крычаць.

За межамі гульняў аматары хакея сустракаюцца. Абмяркоўваюць, што крычаць, як весці сябе на сектары, якія зрабіць плакаты. Напрыклад, аднойчы малявалі зубра з кубкам.

А вось з макіяжам Дар'я «не замарочваецца» – паўсядзённы. На перапынках у холе бясплатна робяць аквагрым. Калі хочацца, становіцца ў чаргу. Звычайна малюе зубра.

– Ведаю, што адна заўзятарка звязала зубраня. Назвала б яго Любоў, бо ў нас вялікая любоў да хакея. І якраз ёсць такое імя. А калі гэта хлопчык, то імя Дынама дакладна для яго, – мяркуе Дар'я.

**Таццяна КАСЬЯН.**

Даведка «РГ». Плэй-оф – у спартыўных спаборніцтвах – сістэма, пры якой удзельнік выбывае з турніру пасля першага ж пройгрышу.



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

3. Горад, у якім у 1828 годзе з'явіўся першы акардэон.
4. Дыпламатычны прадстаўнік вышэйшага рангу адной дзяржавы, акрэдытаваны пры ўрадзе іншай дзяржавы.
5. Гэтага беларускага творцу часам параўноўваюць з Леанардам да Вінчы. Сёлета святкуюць яго 130-годдзе.
8. Пасажырская платформа, каля якой спыняюцца цягнікі на чыгуначнай станцыі.
10. Горад, дзе 520 год таму Мікола Гусоўскі выдаў «Песню пра зубра».
12. Загаловак раздзела ў газеце, часопісе.
13. Гучны, нястрыманы смех.
15. Гаспадарчае начынне для прыгатавання і падачы ежы, пітва.
16. Перыяд жыцця пасля малалецтва да сталасці, ранняя маладосць.
19. Буйная хвастатая земнаводная жывёліна сямейства. У сярэдневяковых павер'ях і магіі – дух агню.
21. Зрабіць, правесці, арганізаваць.
22. У гэтай краіны так добра развіта ўтылізацыя смецця, што часам імпартуюць у суседзяў сыравіну для смеццеперапрацоўчых заводаў.
25. Квітанцыя, талон.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Галоўная або вялікая царква ў горадзе.
2. Месца на службе, звязанае з выкананнем пэўных абавязкаў.
6. Майстар, які вырабляе прадметы мастацтва, упрыгожанні з каштоўных металаў, з каштоўнымі камянямі.
7. Прыстасаванне для засцярогі ад дажджу і сонца.
9. Такі, паверхня якога пакрытая ўзорамі, палосамі, плямамі розных колераў; рознакаляровы.
11. Паралелаграм, у якога ўсе бакі роўныя і непрамыя вуглы.
13. Шэрсць авечкі.
14. Поўнасцю, зусім, дарэшты, датла.
16. Практычны дзеяч у галіне права.
17. Дробныя, як пясок, сухія рэшткі сапрэлага або паточанага шашалем дрэва.
18. Пэўны напрамак дзейнасці, інтарэсаў, спецыялізацыі.
20. Штучны вадаём.
21. Міміка твару, губ, вачэй, якая паказвае схільнасць да смеху або вырашае радасць, задаволенасць.
23. Беларускі горад, дзе 120 год таму адбыўся першы пуск трамвая на электрычнай цязе ў Беларусі.
24. Рэзкі, кароткі рух.

## Адказы на крыжаванку з №42

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Графік. 2. Удар. 4. Гульня. 8. Азарт. 9. Ківок. 11. Галіна. 12. Анкета. 14. Урывак. 15. Ганчак. 18. Сподак. 19. Дракон. 23. Стадыя. 25. Адмірал.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Ферзь. 5. Дзяга. 6. Абвестка. 7. Ланцугамі. 10. Спачын. 13. Крыло. 16. Кіпень. 17. Ноч. 18. Спарыш. 19. Дагавор. 20. Акадэмія. 21. Даёнка. 22. Кесар. 24. Дыямент. 25. Алей. 26. Газон.



## ● ГАРАСКОП 26 КАСТРЫЧНІКА – 1 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** Груз мінулых падзей усё яшчэ ўплывае на вас. Вы змаглі шмат дасягнуць, але цяпер стомленыя, і таму вам цяжка рабіць што-небудзь яшчэ. Можа, варта ўзяць перапынак і адпачыць, бо, галоўнае, не толькі дасягнуць выніку, але і не перапшчыраваць.



**ЦЯЛЕЦ.** Вы будзеце асабліва рашучыя і непахісныя, што дазволіць вам зламаць любое знешняе супраціўленне на шляху да вашай мэты.



**БЛІЗНЯТЫ.** У вашым жыцці магло б з'явіцца светлае рамантычнае пачуццё, чалавек, якога вы змаглі б пакахаць або пасябраваць, але толькі ў тым выпадку, калі вы самі сабе гэта дазволіце.



**РАК.** Вас будуць адольваць унутраныя страсці, якія часам могуць выплюхвацца вонкі, але прычынай іх будуць не эмоцыі і пачуццёвыя жаданні, а больш прагматычныя думкі.



**ЛЕЎ.** Вельмі моцна цяпер выявіцца ваш уладны характар. Накіраванасць вашай думкі і непахіснасць дазволяць вам вырашыць вельмі многія пытанні і дасягнуць пэўнага выніку ў справах.



**ДЗЕВА.** Ваша актыўнасць прынясе пэўны плён. У вас ёсць шанец змяніць свой лёс, накіраваць яго ў іншае рэчышча. Важная ўмова – дзейнічаць па загадзе сэрца, бо толькі сэрца і ўнутранае чуццё дазволяць вам зрабіць той выбар, які прывядзе вас да дабрабыту.



**ШАЛІ.** Вас можа падвесці запальчывы характар, вы рызыкуеце пасварыцца з-за дробязяў з блізкімі людзьмі. Вы можаце быць схільныя да негатыўных эмоцый, падзеі будуць развівацца не па вашым сцэнарыі. Вы цяпер можаце многага дасягнуць, але вам неабходна быць абачлівым і не спадзявацца на мінулы досвед, усё можа выглядаць інакш.



**СКАРПІЁН.** Вам трэба будзе зрабіць крок у невядомае, дзейнічаць наўздагад, а вы нават не будзеце ведаць, куды прывядзе ваша дарога. Але ў гэтым ёсць плюсы: вы не будзеце стаяць на месцы, чапляцца за свае здагадкі і зможаце спакойна прасоўвацца наперад, да нечага новага, што ў любым выпадку будзе для вас карысным.



**СТРАЛЕЦ.** У вас ёсць магчымасць скінуць з сябе цяжар мінулага і пачаць новае жыццё. Цяпер перад вамі адкрываюцца новыя перспектывы, справы, якія вы можаце лёгка асвоіць, калі захочаце прыкласці да гэтага намаганні.



**КАЗЯРОГ.** Вы адчуеце агульны ўздым сіл. Ваша энергетыка дазволіць вам лёгка і досыць плаўна вырашыць любыя пытанні і дасягнуць пастаўленай мэты, перш за ўсё ў пытаннях узаемаадносінаў.



**ВАДАЛЕЙ.** Вельмі актыўны перыяд, на працягу якога вам будзе па сілах практычна ўсё. Гэта той час, калі ўсё залежыць ад вас, і толькі вы можаце вырашыць, як будуць развівацца падзеі. Перад вамі адкрываюцца новыя гарызонты, якія прывядуць да поспеху.



**РЫБЫ.** Не перажывайце па дробязях, не абцяжарвайце сябе якімі б там ні было клопатамі. Жывіце спакойным жыццём, радуйцеся падзеям, што адбываюцца вакол вас, і не задумвайцеся наперад. Пажывіце ў гармоніі з сабой і навакольным светам. Дазвольце сабе нічога не рабіць. Самае неабходнае складзецца належным чынам і без вашага ўдзелу.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 6 | 9 | | | 2 | |
| | 9 | | | | | 7 | 3 | 6 |
| | 8 | 2 | | | 7 | | | |
| | | | | 4 | 6 | | 7 | |
| 2 | 4 | | | | | 6 | | 3 |
| | | | | 2 | 3 | | 4 | 5 |
| 8 | 5 | | | 1 | | | | |
| 9 | 3 | | | | 8 | | | 4 |
| 1 | | | | | | | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

- У Маладзечне з'явіцца крэатыўная карта. Прэзентацыю правядуць 27 кастрычніка. У стварэнні карты ўдзельнічалі актыўныя жыхары горада. Арганізатары ўпэўненыя: прадукт, які атрымаўся, можа быць каштоўным для гасцей горада, дазваляе паглядзець на Маладзечна вачыма мясцовага жыхара.

## 27 кастрычніка, субота

Астравец: +4 / +9. Пераменная воблачнасць. Вецер: ↗ 9

Мядзел: +3 / +9. Значная воблачнасць. Вецер: ↗ 9

Смаргонь: +3 / +10. Воблачна. Вецер: ↗ 9

Вілейка: +4 / +8. Воблачна. Вецер: ↗ 1

Ашмяны: +3 / +9. Хмарна. Вецер: ↗ 9

Маладзечна: +3 / +8. Значная воблачнасць. Вецер: ↗ 9

Валожын: +5 / +10. Пераменная воблачнасць. Вецер: ↗ 8

Усход 8.04
Захад 17.51
Даўжыня дня 9.57

Усход 19.44
Захад 10.56
Квадра 1

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -4,8°C у 2003 годзе
Максімальная тэмпература +15,6°C у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,2 мм у 2009 годзе

Паводле meteoinfo.by.



# На рок-канцэрце ў Маладзечне 20 кастрычніка было горача




Фота Таццяны КАСЬЯН.

Выступае гурт «GROWLING HUNTER».



Падчас выступлення гурта PREVAIL.



Гледачы падчас канцэрту кайфуюць ад музыкі.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Якія ў вас адносіны з суседзямі?



**Вера Бабровіч, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Заўсёды вітаюся, і не толькі з жыхарамі свайго пад'езда. І дзяцей вучу. А сярэдняе дзіцё ўвогуле з усімі вітаецца. Адносіны з суседзямі добрыя. Часта раімся па агульных пытаннях – ацяпленне, вулічнае асвятленне, вада. У пад'ездзе шмат дзяцей, з мамамі справу часцей размаўляць.



**Святлана Пілецкая, медыцынская сястра, Маладзечна:**
– Вядома, у рамках прыстойнасці і ветлівасці з суседзямі вітаюся. З добразычлівымі людзьмі магу паабмяркоўваць і пагутарыць на любыя тэмы, якія тычацца не толькі дома, у якім жывём, але і пра жыццё ўвогуле.



**Юлія Рамановіч, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– З суседзямі жывём дружна, дом наш не вялікі. У доме практычна ў кожнай сям'і ёсць дзеці. Прычым так супала, што зусім маленькая разбежка ва ўзросце. Так што кантактуем добра, ёсць што абмеркаваць, а дзеці гуляюць разам. Часам дапамагаем адзін аднаму.



**Алена Шпырковіч, радыёлаг, Маладзечна:**
– У пад'ездзе пераважна жывуць пенсіянеры. З імі больш мае зносіны мама. Сумесна вырашалі рамонт дамафона, перафарбоўвалі пад'езд. Амаль усе жыхары ведаюць мяне з маленства, думаю, магу ім даверыць паглядзець за торбай, папрасіць соль.



**Настасся Суша, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Вядома, вітаемся, адносіны вельмі добрыя і цёплыя, як сустрэнемся, так і абмяркоўваем розныя пытанні. Мы з суседкай як сяброўкі, можам падзяліцца нават патаемным.



**Людміла Якуновіч, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**
– Нейтральныя – не сябры, але і не сварымся. Калі сустракаемся на лесвічнай пляцоўцы, абавязкова перакідваемся парай слоў. Заўжды вітаюся з імі і дзяцей вучу.



**Дзмітры Чарняк, тэхнік-тэхнолаг зварачнай вытворчасці, Маладзечна:**
– Бывае фразамі перакінемся. Неяк дзверы ў падвале рамантавалі. Суботнікі ёсць. Не больш за пяць-сем чалавек прыходзіць, болей і не трэба. Думаю, не адмовілі б, калі папрасіў у нечым дапамагчы.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату A2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№43 (1226) 26.10.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1001. Падпісана ў друк у 9.00 25.10.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**




Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.